СЕНСАЦЫЯ

«АРМЕНІКУМ» — РАТУНАК АД СНІДу? Стар. 2.

ДНІ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛАТВІІ Стар. 6.



АСОБА

«СКАРБЫ ФЁДАРА ШКЛЯРАВА» Стар. 2, 3, 5.

МІХАСЬ СКОБЛА. «МЕСТАЧКОВЫ РЭНЕСАНС» Стар. 5.

ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ Стар. 6.



УРАЖАННІ

ВІКТАР ШВЕД. «ВЕРШЫ НАТАЛЬЦЫ», «ORTHDRUK» БЕЛАСТОК, 1998 Стар. 6.

ДЫНАСТЫЯ БАРХАТКОВЫХ — ГЭТА ЦЭЛАЯ ЭПОХА Ў БЕЛАРУСКІМ ВЫЯЎЛЕНЧЫМ МАСТАЦТВЕ Стар. 7.



АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

19 жніўня 1999 года
Цана 20 000 рублёў

№ 32—33

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

## АФІЦЫЙНА

23 ліпеня 1999 года ў Кіеве падпісана міждзяржаўнае пагадненне паміж Украінай і Рэспублікай Беларусь "Аб супрацоўніцтве і забеспячэнні правоў асоб, якія належаць да нацыянальных меншасцяў".

З беларускага боку пагадненне падпісаў старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь Аляксандр Білык, з украінскага боку — старшыня Дзяржаўнага камітэта Украіны па справах нацыянальнасцей і міграцыі Мікалай Рудзько.

*Падпісанае пагадненне* будзе садзейнічаць захаванню нацыянальнай самабытнасці беларусаў на Украіне і ўкраінцаў у Беларусі, умацаванню адносін дружбы, добрасуседства і супрацоўніцтва паміж дзяржавамі і народамі.

Ініцыятарам падпісання пагаднення быў украінскі бок. На Украіне пражывае 441 тысяча беларусаў, у Беларусі — 291 тысяча ўкраінцаў (па перапісу 1989 года.).

Варта нагадаць, што 3 лютага 1999 года ўступіла ў сілу міжурадавае пагадненне "Аб супрацоўніцтве ў забеспячэнні правоў асоб, якія належаць да нацыянальных меншасцей", падпісанае паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Малдова.

З 1 сакавіка 1999 года дзейнічае пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Дзяржаўным камітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам па справах федэрацый і нацыянальнасцей Расійскай Федэрацыі.

Цяпер вядзецца падрыхтоўка аналагічнага пагаднення з Дэпартаментам нацыянальных меншасцей і эміграцыі пры ўрадзе Літоўскай Рэспублікі.



*Яшчэ адной паркавай скульптурай упрыгожыўся любімы мінчанамі Міхайлаўскі сквер. Тут была ўстаноўлена скульптурная кампазіцыя "Чалавек, што стаіць на люку". Стварыў яе мінскі скульптар Уладзімір Жбанаў, які з'яўляецца аўтарам і папярэдняй кампазіцыі "Дзяўчына на лаўцы". На адкрыцці прысутнічаў мэр Мінска Уладзімір Ярмошын.*

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.**

## «ДАЖЫНКІ-99»



**Адныімі з першых завяршылі ўборку збожжавых працаўнікі саўгаса "Рудакова" Віцебскага раёна. Збожжа ў гаспадарцы ўбрана за 16 дзён. Намалочана 2800 тон зерня, больш за тысячу прададзена дзяржаве.**

**НА ЗДЫМКАХ: настаяцель Свята-Харлампіеўскай царквы айцец УЛАДЗІМІР асвячае хлеб новага ўраджаю; вянок са спелых каласоў дырэктар саўгаса Эдуард КУРЦІН уручае механізатару Сяргею ШУТАЧКІНУ.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА. БелТА.**



## ПОЗІРК

**Ганна КАШУБА**

# НА АСТРАЎКУ ЗБАВЕННЯ

Ад канечнага аўтобуснага прыпынку да майго дома — рукой падаць. Я няспешна іду і паволі аглядаю наваколле Мінска, зачараваная маленькім кавалачкам прыроды — адыходзячым днём, які стаў сапраўдным дзівосным падарункам.

Жывучы сярод гарадскіх шматпавярховак, суцэльнага бетону і асфальту, сэрца прагне квяцістых духмяных дываноў-лугоў, свежых лясных пахаў, прастору родных краявідаў, каб наталіць смагу вечнай прыгажосцю.

Іду павольі, паварочваю за вугал дома і трапляю ў абдымкі жвавых залівацкіх гукаў гармоніка. Сэрца пачынае весялей трапятаццa, паходка становіцца больш упэўненай, а душа імкне хутчэй убачыць іх — людзей шчырых, бязмежна адкрытых і добрых, якіх я ведаю не адзін год і люблю, як родных.

Падыходжу бліжэй. Прыпыняюся. Вітаюся. Сустракаюць, як сваячку, — пра здароўе, пра сыночка пытаюцца, пра справы дзведацца хочуць. Я з радасцю адказваю і сама сёе-тое пра іх распытваю. Прызначаем сустрэчу, каб можна было ў ахвоту нагаварыцца.

А гармонік усё грае і грае. Нястомны гарманіст — Іван Разрашэнка з жонкай Кацярынай Аляксандраўнай, якая трапна і лёгка б'е рукой у невялікі бубен. Ва ўсіх на тварах усмешкі, вочы таксама свецяцца гарэзлівымі іскрынкамі. Адны — танцуюць, іншыя — гутараць між сабою. У такія хвіліны маё сэрца ные і шчыміць ад болю, які я імкнуся ніяк не паказваць.

Месца ля пад'езда, дзе збіраюцца яны амаль штодня, стала для гэтых людзей апошнім астраўком збавення і надзеі. Былыя вяскоўцы, не па ўласным жаданні сталі яны гараджанамі. Чарнобыльская бяда прывяла іх у Мінск, адабраўшы родныя дамы, гаспадарку, набыткі і маленькую радзіму. І толькі ў сэрцах захаваліся галасы, пахі, шматколернасць і спакой бацькоўскіх мясцін. Сёння яны ў стане несці цяжар болю і страт толькі тады, калі ўсе разам...

Гляджу на сваіх суседзяў, такіх добрых, шчырых, адкрытых. Хударлявы, крыху згорблены ад перажытага і пражытага дзядзька Антон з Чачэрскага раёна. Два гады таму пахаваў маладую дачку і жонку. Сям'я гарманіста страціла сына, якому яшчэ жыць ды жыць. У астатніх таксама штогод змяншаецца радня. Чарнобыль...

...Лёгкі летні змрок непрыкметна атуляе наваколле. Я прывітліва развітваюся з людзьмі, якія даўно сталі маімі сябрамі. Думаецца пра многае. Пра цэхую мужнасць і сілу духу простага чалавека, пра тую нябачную, але трывалую ніць, якая навечна звязала лёсы перасяленцаў. Пра той адзіны маленькі астравок збавення, на якім гэтыя людзі ўратоўваюцца ад невымернага гора.

## ФОТАФАКТ

**10 жніўня прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Сяргей ЛІНГ сустрэўся з пастаянным прадстаўніком Сусветнага банка ў Беларусі Сяргеем КУЛІКОМ.**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**



NEWS FROM BELARUS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BELARUS

БЕЗ ТЭРМІНУ ДАЎНАСЦІ

# ТРАСЦЯНЕЦКАЯ ТРАГЕДЫЯ

**Кожны год у канцы ліпеня Беларуская асацыяцыя вязняў гета і канцлагераў ладзіць жалобны мітынг каля помніка ахвярам фашызму ў Трасцянцы каля Мінска, на ўспамін трагічных падзей 28—30 ліпеня 1942 года ў Мінскім гета, калі гітлераўцы і паліцаі правялі вялікі пагром, у якім загінула ад 18 да 25 тысяч яўрэяў. Усіх іх забілі ў душагубках або расстралялі ва ўрочышчы Благаўшчына, каля вёскі Малы Трасцянец.**

**Сёлета ў мітынгу прынялі ўдзел грамадскія арганізацыі сталіцы, прадстаўнікі ізраільскага і германскага пасольстваў у Беларусі. Да помніка былі ўскладзены вянкі і кветкі.**

Трасцянецкі лагер смерці забраў жыццё соцень тысяч людзей. Ён дзейнічаў у час акупацыі з лістапада 1941 па 1 ліпеня 1944 года. Гітлераўцы называлі яго працоўны лагер "Благаўшчына", але гэта была толькі фальшывая шыльда. На самай справе тут дзейнічаў лагер смерці СД. Да яго былі падведзены чыгуначная ветка і абсаджаная дрэвамі дарога. У 1941—1944 гадах гітлераўцы сістэматычна знішчалі сотні тысяч людзей, сярод якіх былі яўрэі з Мінска і іншых населеных пунктаў Беларусі, ваеннапалонныя, палітычныя вязні нямецкіх турмаў, яўрэйскае насельніцтва Аўстрыі, Германіі, Польшчы і Чэхаславакіі. Большасць загінуўшых — жанчыны, дзеці, старыя.

Частку людзей прывозілі на аўтобусах, аўтамашынах, якія ў народзе называліся "чорны крумкач", або "душагубка". Прыходзіла шмат эшалонаў з гарадоў Беларусі і краін Заходняй Еўропы.

Усіх іх падвозілі да ДБУ-2 на 9 кіламетры шашы Мінск—Магілёў, дзе асобым чынам рыхтавалі для знішчэння. Крывадушна прапаноўвалі аддаць на захаванне каштоўнасці і рэчы, у замен асуджаныя на смерць атрымлівалі квіткі. Каты стваралі ўражанне быццам бы людзі будуць працаваць на новым месцы. Тут жа падганялі вялікія грузавыя аўтамабілі з прычэпамі, грузілі людзей і падвозілі да месца знішчэння ва ўрочышча Благаўшчына, дзе ўжо груба, са здзекамі загадвалі сваім ахвярам распранацца, а потым расстрэльвалі. У забойствах сумесна з немцамі бралі ўдзел 5 мадзьяраў. Трупы скідвалі ў траншэі-магілы, утрамбоўвалі трактарам, а потым маскіравалі дзірванам.

Ва ўрочышчы Благаўшчына Дзяржаўная надзвычайная камісія па вызначэнню злачынстваў акупантаў выявіла 34 траншэі-магілы, выкапаныя ў 1941—1942 гадах, даўжынёй да 58 метраў, глыбінёй і шырынёй па 5 метраў. Лагер і гаспадарка СД ахоўваліся украінскім батальёнам, што прыбыў з Кіева. Так адбывалася да 1943 года, калі сюды прыгналі ваеннапалонных, якіх гітлераўцы прымусілі адкапаць і спаліць трупы, пасля чаго знішчылі і іх саміх.

У 1943 годзе ва ўрочышчы Шашкоўка гітлераўцы загадалі вязням пабудаваць печ, у якой палілі трупы людзей і нават кідалі ў агонь жывых. Камендантам гэтай печы, абгароджанай высокім драўляным плотам і калючым дротам, быў унтэршарфюрэр Рыдар. Попел раскідвалі па навакольных палях гаспадаркі СД.

Перад прыходам Чырвонай Арміі ў ліпені 1944 года ў лагеры яшчэ заставаліся ў жывых каля 100 чалавек рускіх, яўрэяў, беларусаў — спецыялістаў, занятых на розных работах у лагеры і гаспадарцы СД. Аднак і іх спалілі ў хляве, які зачыніў гамбургскі яўрэй Зайла. Толькі чатыром беларускім і сямі гамбургскім яўрэям удалося ўцячы. Зайла таксама збег з лагера. У жывых засталося яшчэ некалькі чалавек.

Нават і сёння цяжка вызначыць дакладную лічбу загубленых душ у лагеры смерці. Называюць лічбу звыш 500 тысяч чалавек. На суцэльным абеліску, які ўстаноўлены побач з месцам пакарання смерцю вязняў лагера, выбіта лічба 205 тысяч чалавек. Яна складаецца са звестак аб 150 тысячах чалавек расстраляных, 50 тысячах чалавек, спаленых у печы, і 5 тысячах, якіх спалілі на бярвёнах у хлявах. Усе гэтыя лічбы патрабуюць удакладнення. Нават людзі, якія былі вязнямі лагера і цудам засталіся жывымі, не могуць даць дакладных звестак аб агульнай колькасці ахвяр. Яны прыводзяць лічбы, што ім вядомы. Адзін з прадстаўнікоў Дзяржаўнай надзвычайнай камісіі па выяўленню злачынстваў акупантаў акадэмік, генерал-палкоўнік Мікалай Бурдэнка распытваў вязня гэтага лагера Лёву Ланскага, які сцвярджаў, што за час яго знаходжання ў лагеры — з 17 студзеня 1942 года да ліпеня 1944-га было расстраляна 299 тысяч чалавек. У гэты час з Аўстрыі, Германіі і Чэхаславакіі прыйшлі 99 эшалонаў, у якіх было па 1 тысячы чалавек.

**Марат БАТВІННІК,**
**кандыдат гістарычных навук.**

ВІНШУЕМ!

## ВУЧЫЦЕСЯ МАТЭМАТЫЦЫ Ў БЕЛАРУСІ

У Бухарэсце прайшла чарговая 10-я міжнародная алімпіяда вучняў па матэматыцы, у якой прынялі ўдзел каманды з 81 краіны свету.

Па выніках шматлікіх алімпіяд у каманду Беларусі былі адабраны Іван Лосеў, Дзмітрый Бадзягін, Трафім Ласы, Аляксандр Усніч з Мінска і віцяблянe Арцём Кохан і Іван Ражноў. Мы бачылі, што каманда атрымалася моцная, чакалі добрых поспехаў, але, прызнаемся, не такіх. Два Іваны і Арцём вярнуліся з залатымі медалямі, астатнія атрымалі сярэбраныя. У неафіцыйным (але ўсе ўважліва яго падлічваюць) камандным заліку мы апярэдзілі не толькі такія буйныя матэматычныя дзяржавы як Германія, Англія, Францыя, Японія, Украіна, але і ЗША. Івану Лосеву ў ліку 10 лепшых залаты медаль уручыў прэзідэнт Румыніі. Вялікая заслуга ў бліскучым выступленні беларусаў належыць кіраўнікам каманды — кандыдатам фізіка-матэматычных навук Ігару Варановічу, Сяргею Мазаніку і Яўгену Барабанаву. Дарэчы, задача Ігара і Яўгена, якую ў ліку шасці прапанавалі вучням на алімпіядзе, была прызнана лепшай.

**В. БЕРНІК,**
**прафесар, старшыня журы рэспубліканскай алімпіяды па матэматыцы.**



**Экспазіцыя памятных палотнаў-квілтаў, прысвечаных памерлым ад СНІДа, прайшла ў Мінску на плошчы Парыжскай Камуны. Гэта мерапрыемства — частка міжнароднай акцыі "Еўраквілттур-99", у якой удзельнічаюць 14 гарадоў Расіі, Украіны, Беларусі, Літвы і Польшчы.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.**

# «АРМЕНІКУМ» ВЫПРАБОЎВАЮЦЬ НА САБЕ ВІЧ-ІНФІЦЫРАВАНЫЯ З БЕЛАРУСІ

**На днях агенцтва БелаПАН распаўсюдзіла паведамленне, што сярод ВІЧ-інфіцыраваных, якія праходзяць на тэрыторыі Арменіі лячэнне эксперыментальным прэпаратам "Арменікум", ёсць і грамадзяне Беларусі.**

— Гэта дачаснае паведамленне, — растлумачылі карэспандэнту "Народнай газеты" у Рэспубліканскім цэнтры прафілактыкі СНІДу. — Сапраўды, паміж нашым цэнтрам і Рэспубліканскім цэнтрам СНІДу Арменіі нядаўна была дасягнута дамоўленасць аб тым, што армянскі бок будзе прымаць і грамадзян Беларусі, але ў парадку жывой чаргі, згодна пададзенай заяўцы. Чарга, якая складаецца з грамадзян усіх краін СНД, ужо дастаткова вялікая. Але Арменія гатова прыняць усіх жадаючых. Для запрошаных лячэнне не будзе бясплатнае.

На сённяшні дзень у нашай краіне зарэгістравана 2 554 ВІЧ-інфіцыраваных. Многія з іх звяртаюцца ў цэнтр з пытаннямі аб магчымасці праходжання курса лячэння "Арменікумам". Цэнтр гатовы выдаць усім неабходныя даведкі і вынікі аналізаў, дапамагчы кансультацыяй, але афіцыйна ён нікога ў Арменію не накіроўваў і накіроўваць не будзе, бо "Арменікум" не прызнаны фармакалагічнай грамадскасцю: не вядомы яго склад, прынцыпы ўздзеяння на арганізм, магчымыя пабочныя эфекты, працэй кажучы — нічога. "Для нас гэты прэпарат не існуе", — гавораць у цэнтры. Прэпаратам № 1 пакуль з'яўляецца азідасемідзін, распрацаваны расійскімі вучонымі.

**Аляксандр ЗАЙЦАЎ.**

АСОБА

# СКАРБЫ ФЁДАРА ШКЛЯРАВА

***Як вядома, правінцыя — гэта з галіны геаграфічных абазначэнняў: аддалены ад цэнтра пункт. Але слова правінцыя паходзіць часта не ад месца пражывання, а ад настроенасці, сутнасці чалавека, яго ладу жыцця. У гэтым мне некалі давялося пераканацца пры знаёмстве з дзіўным чалавекам — Фёдарам ШКЛЯРАВЫМ. Ён усё жыццё сваё пражыў у маленькім гарадку Ветка на Гомельшчыне, але да яго імкнуліся траліць масквічы і ленінградцы, а потым ужо і мінчане. Быў Фёдар Рыгоравіч вельмі багатым чалавекам, настолькі багатым, што аб гэтым нават не маглі ўявіць яго суседзі, бліжэйшыя сябры і знаёмыя. Багацце сваё ён збіраў па крупіцах, і багаццю таму мая тайна зайздросціў не адзін музей.***

***Прызнаюся, калі я ўпершыню пачула пра Шклярава, паставілася з некаторым скепсісам да той інфармацыі пра яго, якую мне паведамілі. Так, цяжка было паверыць, што самавук — мастак-афарміцель раённага Дома культуры, сабраў унікальную калекцыю рукапісных і першадрукарскіх кніг, не кажучы ўжо пра рэдкія рэчы побыту, прадметы народнага мастацтва, іконы... Але першыя ж мінуты майго знаёмства з ім пераканалі: мне пашчасціла сустрэць надзвычай таленавітага чалавека, ведаў якога хапіла б не на адну доктарскую дысертацыю.***

Шлях ад Дома культуры да яго дома не такі ўжо доўгі, а Фёдар Рыгоравіч па дарозе паспеў столькі расказаць пра суседнія вуліцы, што я пачала пераконвацца ў справядлівасці яго слоў: "Ветка — горад, у якім у мініяцюры адлюстравана ўся гісторыя наша". А дома ён дастаў з паліцы фаліянт у скураным пераплёце — "Кратчайшее начертание истории Ветки" (адзіны арыгінал, копія з гэтага рукапісу захоўваецца ў бібліятэцы Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта) і копію рукапісу "Летопись Ветки", якую яму прыслалі з Інстытута літаратуры (Пушкінскі дом) у якасці падзякі за некалькі падораных рэдкіх кніг, і працягнуў свой аповед: "Колькі б разоў ні чытаў прадмову да "Летописи Ветки", яна заўсёды мяне хвалюе, а сам летапісец уяўляецца мне чалавекам вельмі добрым, які думаў пра нас, яго далёкіх нашчадкаў". Я шмат даведалася ў гэты дзень ад гаспадара дома аб раскольніках і старавераў, што пасяліліся некалі на берагах ракі Веткі, аб паходжанні назвы горада, аб тым, што Ветку добра ведалі і пра яе пісалі Пушкін, Лермантаў, Мельнікаў-Пячэрскі...

Па крупінках збіраў Фёдар Рыгоравіч матэрыял аб гісторыі свайго горада. А аднойчы вырашыў аб усім, што ўжо ведае, расказаць на старонках раённай газеты. У першым сваім артыкуле ён так тлумачыў сваё жаданне: "Помню, у дзяцінстве чуў я адно паданне. Усё яно. Ішлі стомленыя людзі і каля рэчкі вырашылі адпачыць. Убачылі каля берага плавае галінка дрэва, і сказалі: "Остановимся возле ветки". Слова "ветка" засталося ў памяці, замацавалася за горадам. Але поўнасцю паверыць у такое паданне я не мог. А калі вырас, пачаў шукаць дакументы, факты, якія пацвердзілі б гэта. І вось трапілі мне ў рукі паперы, якім я не мог ужо не верыць. І вельмі хачу, каб тое, пра што ведаю я, ведаў і кожны жыхар нашага горада. Таму што назва месца, дзе чалавек нарадзіўся, — гэта гісторыя. А гісторыя — адна з самых цікавых навук".

Менавіта жаданне як мага больш даведацца аб гісторыі роднага горада стала пачаткам унікальнай калекцыі старадаўніх рукапісаў і друкаваных кніг, а таксама хатняга музея мясцовага народнага мастацтва і рамёстваў. У тую нашу сустрэчу Фёдар Рыгоравіч, не шкадуючы часу, абвяргаючы перасцярогу таго-сяго з мясцовых начальнікаў — маўляў, зазнаўся Шкляраў, можа, і не пакажа вам нічога, — не проста з задавальненнем, а з натхненнем паказваў свае скарбы, суправаджаючы амаль кожную кнігу ці рэч цікавым аповедам.

Адна гадзіна змяняецца другой, мы выходзім з гаспадаром на веранду, пём гарбату з ліпавым мёдам (уласным) з прыгожага, старадаўняга самавара, а побач разная хлебніца — вока не адвесці. (Ёй гадоў 150. Вось бы яму, майстру, падпісацца! — шкадуе Фёдар Рыгоравіч). Ды і на паліцах чаго толькі няма! Яшчэ некалькі не менш прыгожых і каштоўных самавараў, медны і гліняны посуд, кашы і карзінкі розныя, з лазы плецення, ліццё мясцовых майстроў...

Сцены майстэрні гаспадара дома завешаны работамі мясцовых іканапісцаў, у іх свая адметная манера



**ЛЕТА — ПАРА СПАРТЫЎНАЯ**



## АЗДАРАЎЛЕНЧЫ ЛАГЕР НА... ДАЧЫ

**стварыў кіраўнік гомельскай дзіцячай школы каратэ "Дракон" Уладзімір Гарэлаў. Паўтара дзесятка выхаванцаў выязджаюць на два тыдні на дачу Гарэлавых, дзе трэніруюцца, купаюцца ў возеры. Харчаванне выключна вегетарыянскае з традыцыямі індыйскай кухні.**

**НА ЗДЫМКУ: Надзея ІВАНОВА на занятках з Уладзімірам ГАРЭЛАВЫМ.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

## У ВЫЙГРЫШЫ — ЎСЕ



**На спартыўных пляцоўках аздараўленчага лагера "Лясны" Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці прайшла міжлагерная спартакіяда, у якой прынялі ўдзел дзеці з лагераў "Чайка" і "40 год піянерыі" Мінскага раёна. Удзельнікі спартакіяды разыгрывалі прызы па лёгкай атлетыцы, футболу, тэнісу, піянерболу, самыя маленькія спаборнічалі ў эстафеце "Спартландыя".**

**НА ЗДЫМКАХ: дзеці з аздараўленчага лагера "Лясны" "хварэюць" за сваіх сяброў; забег на 60 метраў сярод хлопчыкаў.**



**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.**

**МІНСК, ЗАХАРАВА 28. ДОМ ДРУЖБЫ**

Найперш чарнобыльскія праблемы хвалююць няўрымслівых актывістаў гэтай дабрачыннай арганізацыі. Яны праводзяць аздараўленне дзяцей з Магілёўскай вобласці ў французскіх сем'ях, усталявалі апякунства над хлопчыкамі і дзяўчынкамі, якія адчулі цеплыню адносін да іх раней незнаёмых мадам і месьё. Іх зноў і зноў запрашаюць да сябе на вакацыі гасцінныя гаспадары. Вельмі даспадобы тое, што французскія і беларускія сем'і наладзілі доўгатэрміновыя стасункі паміж сабой, сталі як бы пароднёнымі. Некаторым дзецям, у якіх, на жаль, не было бацькоў, пашанцавала адчуць мацярынскую ласку — іх усынавілі тыя французскія сем'і, якія не мелі сваіх дзяцей. Адышоў ад іх боль змрочнага жыцця. У сем'ях засвяціла сонейка. У час гутаркі ў доме Таон-Гілен і Жана-Клода Фаслен, што месціцца каля скрыжавання вуліц Лекслер-Жарэс у Данэне, гаспадары толькі і гаварылі аб маючай адбыцца новай сустрэчы з Таццянай і Марынай Ефіменка з Краснаполля, як разам адсвяткаваць іх дні нараджэння. У гэтым утульным доме давялося пачуць і надта прыемнае для беларусаў: французскія сем'і вельмі хочуць, калі справа ідзе аб усынаўленні, мець сваіх будучых дачок і сыноў беларускага паходжання. Нават не гавораць чаму, але толькі наш радавод вабіць французаў. Штосьці добрае адчуваюць. А мо іх пачуцці пераклікаюцца са словамі мэра горада Обі Саланджэра Каро, якія мы пачулі ў час яго выступлення на вечарыне дружбы: "На мове сэрца мы размаўляем сёння паміж сабой. Ёсць падставы сказаць, што нашы дзеці, артысты, якія так хораша дэманструюць суквецце культуры Беларусі, з'яўляюцца пасламі спадзявання на адзіную, у будучыні прывабную Еўропу". Ці не ў гэтым і праяўляюцца ўсе адценні жыцця на мове сэрцаў?!

Можна ганарыцца падобным прызнаннем, як ганарацца бацькі сваімі дзецьмі. Мне неаднойчы давялося сустракацца з сям'ёй Мішэля Марэн, якая пазнала радасць жыцця, калі ў іх з'явілася маленькая дачка Алёна. Дзяўчынка, на вялікі жаль, не спазнала бацькоўскай ласкі на роднай зямлі — не тыя, відаць, бацькі яе нарадзілі, і ёй, гаротнай, давялося пачынаць жыццё ў Магілёўскім дзіцячым доме. Больш чым роднай стала ёй французская сям'я. У дэпартаменце Па-дэ-Кале знайшла дзяўчынка сямейную ласку, чалавечае шчасце. Спадзяюся, на ўсё жыццё.

Добрыя словы прыемна не толькі ўспрымаць, але і выказваць іншым людзям. Канешне ж, асабліва тым, якія са шчырасцю ставяцца да беларускага народа. Такіх людзей у "Французскай народнай дапамозе", на шчасце, вялікая колькасць. Адчулі мы гэта на першамайскай вечарыне ў Палацы культуры гарнякоў горада Данэна. Там панавала прыўзнятая атмасфера. Мноства людзей, сярод якіх былі тыя, хто ўжо ведаў Беларусь, прыйшлі ўшанаваць Дні Беларусі, якія праходзілі ў іх горадзе. Гучалі вядомыя мелодыі французскіх кампазітараў: знакамітая, аўтарам якой з'яўляецца Клод Жазэф Ружэ, "Марсельеза", Джо Дасэна "Калі б не было цябе". Людзі, нават пажылыя, бавіліся танцамі. Сваімі справамі заклапочаны былі дзеці. Зала прыціхла са з'яўленнем на сцэне народнага ансамбля Белдзяржуніверсітэта "Крыжачок". Цішыня была нядоўгай — да першых узнёслых воплескаў у канцы "Беларускай сюіты". Усё часцей і часцей рытм музыкі, асабліва полечкі-трасухі, суправаджаўся авацыяй усіх прысутных. Абыякавасці не было. Здавалася, хваляваўся толькі Бернар Талоці. Ён быў галоўным арганізатарам гэтай сяброўскай сустрэчы і жадаў, каб усё атрымалася як найлепей. Не толькі жадаў, але і забяспечыў сяброўскае свята, на якім не было розніцы паміж людзьмі. І нездарма гучалі і на гэты раз словы: "Людзі, якія святкуюць разам, атрымліваючы пры гэтым асалоду, як правіла, застаюцца сябрамі".

Бернар — даўні наш сябар, ён кожны год прыязджае на Беларусь. Калі пакідалі гасцінных французскіх сяброў, па дарозе ў аэрапорт спытаў, што яго прываблівае ў беларусах.

— Цеплыня адносін паміж людзьмі, іх таварыскасць. З вамі можна лёгка ўсталяваць кантакты, хутка ўзнікае давер. І яшчэ — мы з удзячнасцю адчуваем вялікую цікавасць вашага народа да Францыі. Я абавязкова ствару таварыства дружбы "Францыя-Беларусь", гэтае пытанне для мяне ўжо вырашана. Тыдзень Беларусі, які, на мой погляд, прайшоў добра, стымуляваў цікавасць і павагу людзей да вашай краіны, жаданне больш пазнаць яе. Народны ансамбль танца, высокае майстэрства студэнтаў, якія не з'яўляюцца прафесіяналамі, — для нас адкрыццё. Гэта сведчыць аб высокай культуры народа.

Аб'ектыўны погляд на нашу краіну пасля неаднаразовага яе наведвання выказаў прадстаўнік бельгійскага аддзялення Мальтыйскага ордэна барон Пангер д'Опдар. Прыязджаў ён да нас разам з Ізабэлай Дзю Буа, якая паходзіць з вядомай раней на Гродзеншчыне сям'і Святаполк-Чацьвярцінскіх. Барон ураўнаважаны, далікатны, пры кожнай сустрэчы стараецца падкрэсліць павагу да субяседнікаў. Добрых слоў не шкадуе нават у афіцыйных даведках аб сустрэчах на Беларусі, копіі якіх прысылае і нам. Ім нямала сказана аб шчырасці беларусаў, іх дзелавітасці, чысціні сталічных вуліц, прыгожа апранутых людзях.

Д'Опдар быў надта ўражаны гасціннасцю простых вясковых людзей. Сустрэча з імі адбылася па дарозе ў пасёлак Жалудок, у клінічную бальніцу якога бельгійскія госці раз-пораз прывозяць абсталяванне і лекі.

Арсен ВАНІЦКІ

# АДЦЕННІ ЖЫЦЦЯ

## *Урыўкі з главы «У імя будучага»*

Працяг.
Пачатак у №№ 25—27, 29—30.





**У час правядзення Дзён беларускай культуры ў Шры-Ланка.**

пісьма. Але перш за ўсё здзіўляюць сваёй тонкай работай аклады ікон — расшытыя каляровым бісерам і рачным жэмчугам, разныя, з ствала ліпы, быццам упрыгожаныя восеньскай залатой лістотай...

"Гэта — "Нікола" нашых мясцовых майстроў XVIII стагоддзя, — тлумачыць Фёдар Рыгоравіч. — А вось гэтыя дзве іконы прывазныя, належалі Сяргею Траццякову. Так, брату заснавальніка Траццякоўскай галерэі: ён уцякаў ад рэвалюцыі, як некалі стараверы ўцякалі ад царкоўных рэформ, да нас. З 1917-га па 1931-шы год Сяргей Траццякоў жыў у нашым горадзе, служыў бацюшкам у мясцовай царкве".

І ўсё ж галоўны гонар гаспадара дома — кнігі. Пачынаючы з рукапісных XV і першых друкаваных XVI стагоддзяў і канчаючы XIX, а таксама кнігі ўсіх друкарань Беларусі і Украіны XVII стагоддзя.

Фёдар Рыгоравіч бярэ з паліцы адзін з цяжкіх тамоў — "Учительное Евангелие" (Заблудаўскае), выпушчанае ў 1569 годзе Іванам Масквіціным і Пятром Мсціслаўцам накладам літоўскага гетмана Рыгора Хадкевіча, і расказвае гісторыю выдання кнігі.

Манахі-перапісчыкі, баючыся згубіць заробак, пасля выхаду ў Маскве друкаванага "Апостала" Івана Фёдарава і яго памочніка Мсціслаўца, абвінавацілі іх у ерасі і чараўніцтве. Фёдараў знайшоў апекуна ў асобе знанага беларускага вяльможы Хадкевіча. На яго сродкі ў мястэчку Заблудава, што яму належала, Фёдараў і Мсціславец стварылі друкарню, дзе і было выдадзена "Учительное Евангелие". Кніга гэтая унікальная. У былым СССР вядома было на той час толькі 17 экземпляраў яе. 17-ты, які я трымала ў руках, належаў Шкляраву.

А Фёдар Рыгоравіч ужо працягваў мне наступную, не менш каштоўную кнігу — "Апостал" Івана Фёдарава, які "перавыдаў" у 1574 годзе ў Львове. Кніга набрана тым жа шрыфтам і з тымі ж самымі ўпрыгажэннямі-застаўкамі, што і першадрукаваны яго маскоўскі "Апостал" 1564 года.

"У Ветцы можна знайсці нават тое, што і не павінна было б тут сустрэцца, — прызнаўся Шкляраў. — Так, мне пашчасціла напасці на вельмі рэдкую кнігу — "Евангелие" Пятра Мсціслаўца, надрукаванае ім у Вільні ў друкарні беларускіх купцоў братоў Мамонічаў. У 1598—1600 гадах гэтую кнігу перавыдалі з чатырма гравюрамі і выхаднымі данымі. Яе я таксама адшукаў".

Знімаючы з паліц кнігу за кнігай, Фёдар Рыгоравіч перш чым раскрыць яе, ласкава гладзіць вокладку.

"Часовник" 1640 года выдання. Лічаныя экземпляры захаваліся, — дае кароткае тлумачэнне ён. — Настольная кніга, па ёй вучылі чытаць і зачытвалі да дзірак".

Старадаўнія рускія ноты, "Устав нарицательный" (царкоўны), выпушчаны ў 1607 годзе беларусам Анісімам Радзішэўскім, паслядоўнікам Івана Фёдарава, "Псалтырь" Андроніка Нявежы... Усяго ў калекцыі Фёдара Шклярава на час нашага знаёмства налічвалася больш за 150 рэдкіх рукапісных і друкаваных кніг. З ранняй вясны і да глыбокай восені абыходзіў ён не адзін год усе вёскі і ніколі не вяртаўся з пустымі рукамі. Можа, яшчэ і таму, што, акрамя мэтанакіраванасці, валодаў немалой настойлівасцю, тактам і абаяльнасцю, якія так неабходныя сапраўднаму збіральніку-калекцыянеру. Здаралася, што якая-небудзь кніга ці старадаўняя рэч і не патрэбна была бабулі, але і расстацца з ёю таксама цяжка, таму што гэта памяць аб блізкіх, дарагіх для яе людзях. І не раз, і не два прыязджаў па такому адрасу Шкляраў.

(Заканчэнне на 5-й стар.).

З УСПАМІНАЎ

# КАБ НЕ ПАЎТАРЫЛАСЯ...



● Артур ВОЛЬСКІ.

Ну вось. Мы ўжо і на парозе. Яшчэ трошкі, і пераступім яго. І ўвойдзем у новае тысячагоддзе. Спадзяюся, што Бог дасць мне гэткую магчымасць.

У такія пераходныя, а можа і пераломныя часіны міжвольна перагортваеш кнігу ўласнага лёсу. А значыцца — і лёсу той краіны, у якой жыў, у якой жывеш. Старонку за старонкай. І чамусьці — відаць, заканамерна — у першую чаргу згадваецца тое, што адбілася ў памяці з маленства. Вось і мне сёння хочацца падзяліцца ўспамінамі не пра вайну, не пра іншыя лёсавырашальныя для майго пакалення падзеі, а пра некаторыя эпізоды дзяцінства.

Мае школьныя гады амаль нічым не адрозніваліся ад школьных гадоў людзей аднаго са мной веку. Усім класам — у акцябраты. Усім класам — у піянеры.

Але... але было і такое.

Борка Карпаў, па школьнай мянушцы "Рыжы", быў на год старэйшы за нас. Ён апынуўся ў адным класе з намі, застаўшыся на другі год у сёмым. Цыбаты, крыху няўклюдны, сапраўды рыжы. Нават ярка-рыжы. На сваю мянушку адгукаўся, як і на імя. Без крыўды. Дабрадушна. Толькі ўсміхаўся стрымана. Заўсёды нечым быў заклапочаны. Жыў нейкімі сваімі, не школьнымі інтарэсамі.

Аднаго разу Борка спазніўся раніцай на першы ўрок. Калі ж увайшоў, увесь клас на нейкае імгненне застыў у маўчанні. І ўрэшце выбухнуў рогат. Дзіва што. Борка-рыжы быў зусім не рыжы, а... зялёны! Так, так. І коратка пастрыжаныя валасы, і бровы набылі ў яго колер травы. Ён стаяў у дзвярах, ніяк не рэагуючы на агульны рогат. Чакаў дазволу заняць сваё месца за партай. Але настаўнік адправіў яго дадому. І правільна зрабіў. Інакш заняткі ў гэты дзень былі б сарваныя.

Вось тады я і зразумеў, што Борка зусім неабыякавы да колеру сваіх валасоў. Да мянушкі. Да кепікаў. Гэта выклікала ў мяне пачуццё спагады. Больш я ніколі не зваў яго рыжым. І ён ацаніў гэта. Аднойчы нават запрасіў да сябе ў госці. На дзень нараджэння, як быццам.

Жыў Борка ў двухпавярховым доме па вуліцы Валадарскага, недалёка ад таго месца, дзе яна, збегшы ўніз, перакрыжоўваецца з вуліцай Карла Маркса. Разам з маці ён займаў адзін пакойчык у камунальнай кватэры.

Ці быў у Боркі бацька? Не ведаю. Не бачыў. І не чуў. А пытацца было няёмка. Раптам — бязбацькавіч? Ці, можа...

Рэпрэсіі тады пачаліся ўжо. У Толіка Талкачова, нашага аднакласніка, бацьку забралі. А быў жа ці то наркомам, ці то намеснікам наркома па нейкай там галіне прамысловасці. Толік ні з кім не дзяліўся сваёю бядою. І мы рабілі выгляд, што анічога не ведаем. Спачувалі.

Знік спачатку ненадоўга, а потым і назусім Навум Шэўчык, які выкладаў у нас родную мову і літаратуру. Быў ён адным з найбольш паважаных у школе настаўнікаў. Не толькі дзяцей вучыў, але і падручнікі пісаў. І вось — не стала. І папаўзло па школе: нацдэм... вораг народа...

Акрамя мяне, да Боркі прыйшлі яшчэ два хлопцы. З адным з іх — Пашкам Каленікам — я і да гэтага быў знаёмы. Разам у футбол гулялі ў суседнім двары. З другім упершыню сустрэўся. Невысокага расточку. Хударлявы. Вельмі гаваркі. Невыразныя рысы твару чамусьці назаўсёды адбіліся ў маёй памяці. Як на слайдзе. А вось імя — выветрылася. Як жа звалі яго? Ці не Зяма? Хай будзе Зяма...

> ***— А ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, — СПЫТАЎСЯ ЁН ГЛУХАВАТЫМ ГОЛАСАМ, — ШТО СТАЛАСЯ З ШЭЎЧЫКАМ?***
> ***МЫ МАЎЧАЛІ.***
> ***— А З ТОЛІКАВЫМ БАЦЬКАМ?***
> ***МЫ МАЎЧАЛІ.***
> ***БОРКА СПЫТАЎСЯ ЯШЧЭ І ПРА ХЛОПЦА З ПАРАЛЕЛЬНАГА КЛАСА.***
> ***МЫ МАЎЧАЛІ.***
> ***БОРКА ГЛЯДЗЕЎ НА НАС. ДАПЫТЛІВА І ЦЯРПЛІВА. А МЫ...***
> ***МЫ МАЎЧАЛІ. ХОЦЬ ВЕДАЛІ. ЦІ ЗДАГАДВАЛІСЯ.***

Размова спачатку не дужа клеілася. Потым і зусім згасла. Выратавала Боркава маці. Яна прынесла чайнік з варам, паставіла на дашчаны столік імбрык з заваркай, кубкі на сподачках, талерачку з "ракавымі шыйкамі". І пакінула нас. Не сказаўшы ні слова.

— Частуйцеся, хлопцы, — прапанаваў Борка, пераліваючы гарачую гарбату з кубка ў сподак. "Ракавыя шыйкі" — ласунак па тым часе спакусны. Дарма што танныя. Некалькі хвілін чуліся толькі нягучныя пацмокванні ды пасёрбванні. Нарэшце Борка адсунуў ад сябе парожні сподак і абвёў нас суровым паглядам.

— А ці ведаеце вы, — спытаўся ён глухаватым голасам, — што сталася з Шэўчыкам?

Мы маўчалі.

— А з Толікавым бацькам?

Мы маўчалі.

Борка спытаўся яшчэ і пра хлопца з паралельнага класа.

Мы маўчалі.

Борка глядзеў на нас. Дапытліва і цярпліва. А мы...

Мы маўчалі. Хоць ведалі. Ці здагадваліся.

Я асабіста мог дадаць да гэтага пераліку яшчэ і роднага дзядзьку — мамчынага брата Якава. Ён, як і Шэўчык, быў настаўнік. І таксама складаў падручнікі. І таксама знік. Назаўсёды. Шэўчыка, праўда, я сустрэў неяк. Падчас "хрушчоўскай адлігі". У Доме літаратара. Яму пашанцавала. Ён вытрымаў усе выпрабаванні. І вярнуўся. А дзядзька Якаў... Праз шмат гадоў пасля ягонага зняволення мама атрымала з адпаведных органаў адказ на свае бясконцыя запыты: "Памёр у выніку сардэчнай недастатковасці." І ўсё. Ні дзе пахаваны. Ні спачування...

Першы ачомаўся Зяма. І загаварыў. Хуценька-хуценька. Нібы баючыся, што яго перапыняць.

— А на радыёзаводзе, ведаеце, галоўнага інжынера забралі. За што? А вы паглядзіце, у каго ёсць прыёмнік, як на ім напісана. "Завод им. Молотова". А калі злітна прачытаць — што будзе?

Ён перачакаў крыху, і сам жа адказаў:

— "Заводим Молотова"! Хто заводзіць? Ды яшчэ — каго?!

Я не разумеў, ці асуджае ён няшчаснага галоўнага інжынера, ці спачувае яму.

А Борка зноў абвёў усіх суровым поглядам:

— Спадзяюся, што даносчыкаў сярод нас няма?..

Цукеркі скончыліся раней. А цяпер і вар у чайніку астыў. Мы пачалі развітвацца.

— Можа ў наступную нядзелю зноў збяромся? — прапанаваў Борка.

І мы збіраліся. Кожны тыдзень. Па нядзелях. У тым самым пакойчыку.

Не ведаю, як Пашка і Зяма, а я сваім бацькам нічога пра нашыя зборы не сказаў. Пасля арышту дзядзькі Якава становішча ў сям'і і без таго было напружанае.

Размовы нашыя былі зусім не дзіцячыя. Хаця па-дзіцячаму наіўныя. Пра бясконцыя арышты. Пра галечу, у якой жыла большасць людзей. Пра ўкраінцаў, што ратаваліся ў нас ад голаду. Пра Сталіна. Ён для нас ужо не быў "любімым бацькам". І мы не зайздросцілі Мамлакат Нахангавай, сфатаграфаванай на руках Іосіфа Вісарыёнавіча.

Спачатку я адчуваў сябе ніякавата. Мне было сорамна. З год таму ў піянерскім часопісе "Іскры Ільіча" быў змешчаны мой верш. Першы мой верш у друку. І прысвячаўся ён менавіта яму — Сталіну. Хоць і да сустрэч у Боркі мяне ўжо наведвалі горкія сумненні. І тым не менш... Я даў сабе слова, што больш ніколі не стану крывіць душой...

Каюся. Слова сваё я не стрымаў. Не хачу спасылацца на тое, што час быў такі, што і многія іншыя пісалі. Амаль усе. І не такія, як я. Навошта гэта? Кожны ў адказе за сябе самога. Перад людзьмі. І перад небам. Таму не варта шукаць падстаў дзеля самаапраўдання. Грэшны — пакайся. Бог даруе. Людзі могуць не дараваць. А Бог даруе.

...Ні ў наступны раз, ні праз наступны Зяма на нашыя зборы не прыходзіў. Толькі тыдні праз тры мы зноў убачылі яго ў Боркі. З выгляду ён неяк змяніўся. Быццам быў настрашаны нечым ці некім.

— Што з табой? — пацікавіўся я, прыйшоўшы апошнім.

— Быў там, — адказаў ён ціха, націскаючы на слова "там".

— Дзе — там? — не зразумеў я.

Борка глянуў на мяне з дакорам. А Пашка склаў пальцамі абедзьвюх рук нешта падобнае на краты.

Зяма на гэты раз не малаціў языком, як звычайна. Гаварыў павольна. Запінаючыся. З ягонага збіўлівага аповеду мы зразумелі, што ён быў выкліканы "туды". Хто выклікаў? Навошта? Мы не пыталіся. Тое, што ён нібыта бачыў "там", поўніла нашыя сэрцы жахам. Мне ўяўляліся змардаваныя, ледзь жывыя вязні. Сінія ад пабояў твары. Хлопец нашага прыблізна ўзросту з абдзёртай скурай на вуснах...

"Гэткае можа чакаць і цябе", — прашаптаў мне мой унутраны голас...

У Пашкі быў старэйшы брат — Арсень. Юнак разумны, смелы, нават разыкоўны. Дык вось, гэты самы Арсень і перадаў праз Пашку, каб мы больш не збіраліся. Каб забыліся нават, што ведаем адзін аднаго.

— Што ж, — сказаў разважлівы Борка, — так, можа, будзе лепей.

Неўзабаве я з'ехаў у Віцебск і паступіў у мастацкую вучэльню. Сувязь са "змоўшчыкамі" абарвалася. Потым была вайна. І першыя ўзнагароды. І — Перамога...

Шмат пазней, недзе ў шасцідзесятыя, я стаў дырэктарам Тэатра юнага гледача. Рыхтавалася, памятаю, нейкая важная прэм'ера. Каб своечасова ўправіцца з мастацкім афармленнем, давялося запрасіць мастака-дэкаратара з опернага тэатра.

Уваходжу ў вялікую верхнюю залу і што ж? У мастаку, які завіхаўся над палатном з вялікім пэндзлем, пазнаю... Каго б вы думалі?.. Пашку! Таго самага Пашку Каленіка.

Мы, вядома, прыгадалі свае школьныя гады. І пра тое, што напаткала нас у далейшым. Ад Пашкі я даведаўся, што Борка Карпаў таксама жывы. Займаецца культурна-асветніцкай дзейнасцю. У Міры, як быццам. Што сталася з Зямам, ці як яго звалі, невядома...

— Дзякуй Богу, што так усё скончылася, — зусім сур'ёзна, без гарэзінкі ў вачах прамовіў Павел.

Да гэтага, гаворачы пра нашых сяброў, мы абыходзілі прычыну, якая звяла нас у рызыкоўны гурток. Сталіна ўжо не было. Але гаварыць адкрыта?.. Час не наспеў. Страх тады яшчэ не пакінуў нашыя душы...

І сапраўды — дзякуй Богу! І за тое, што ахаваў нас тады. І за тое, што мы маем магчымасць гаварыць пра ўсё гэта адкрыта. Хаця страх... Страх яшчэ ёсць... Рэшткі страху...

А раптам вернецца? А раптам — паўторыцца?

Крый Божа!

ЮБІЛЕІ

## АД ЗЕМЛЯРОБЧАЙ ШКОЛЫ ДА АКАДЭМІІ



**Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія ў наступным годзе будзе адзначаць 160-годдзе сваёй дзейнасці. Гэта першая вышэйшая навучальная ўстанова ў Беларусі была заснавана ў 1840 годзе ў маёнтку Горы-Горкі каля Горак Магілёўскай губерні. Спачатку тут была земляробчая школа, а затым у 1848 годзе заснаваны земляробчы інстытут. У акадэміі многа гадоў назад быў разбіты і першы ў Беларусі батанічны сад, у аранжарэях якога і ў нашы дні растуць многія экзатычныя расліны, дрэвы, імхі, кветкі. А ўся тэрыторыя вучэбнага гарадка акадэміі з векавымі ліпамі і таполямі, тэрасамі і штучнымі вадаёмамі радуе вока сваёй ландшафтнай прыгажосцю і культурай.**

**НА ЗДЫМКАХ: так выглядае тэрыторыя Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў нашы дні.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.**

АБРАЗОК

● Уладзімір

Вызвален
пад Бабруй
вёсачцы Аў
патрапілі гн
тут лічылі бе
вельмі крыў
на другі ці
вызвалення
дадому. Н
ворваць:
— Куды в
лядзіце, якія
лыя, нямогл
выбраліся...
вас там фр
там усё вып
там холад і
нічога-нічагу
не садзілі...

ДАД

дзеце? Дзе
Заставайцес
знойдзецца.
"Дадому! То
шлі. Ішлі дн
Прыйшлі. І г
маўцы: ад
засталося ні
но папялішча
Але мы был
больш не на
Зладзілі які
жэрдачак і
жыць. Так п
хто выжыў,
сваё хатнішч
Стаўшы д
думаў:
гнала нас на
шчы, на гэ
шчы?!" Мож
ду застацца
выпаленай в
не менш, не
ўсе нашы ме
ліся на свае
імі кіравала?
чуў розныя
было не вяр
куток, дзе р
жа і магілы
хто б мы б
перакаці-пол
другое: калі
ся, то знікла
наша мястэч
галаву не пр
Такое ра
кута было
дзей. Пачу
прыроднае.



СПАДЧЫНА



**Міхась СКОБЛА**

# МЕСТАЧКОВЫ РЭНЕСАНС

## УРЫВАК З КНІГІ «ДЗЯРЭЧЫНСКІ ДЫЯРЫЮШ»

Лёс многіх беларускіх мястэчкаў выклікае шкадаванне. На працягу стагоддзяў у іхніх замках стваралася гісторыя, у іх палацах баляваліі каралі й вялікія князі, на іхніх тэатральных прэм'ерах лічыла за гонар прысутнічаць еўрапейская арыстакратыя. Сёння яны ціхмяна дажываюць свой век. Не збярогшы сведчанні сваёй былой велічы, паступова ператвараюцца ў звычайныя вялікія вёскі. Іх нават не ратуе статус гарадскіх пасёлкаў, што дазволіла некаторым мястэчкам зрабіцца цэнтрамі раёнаў. Усё з цягам часу прыходзіць у запусценне. Ці, як казалі старажытныя рымляне, — Sie transit gloria mundi.

Але чаму слава свету не мінае для польскіх мястэчкаў? Я прыгадваю сёлетнюю вандроўку ў мястэчка Казімір Дольны — гэта сто кіламетраў ад Варшавы ў бок Любліна. Дзве тысячы чалавек насельніцтва. Два мільёны турыстаў штогод! Мясцовыя выдатнасці — касцёл XVIII стагоддзя, рэшткі замка на высокай гары, дом-музей літаратара Ружэвіча. Амаль у кожным беларускім мястэчку гэта ўсё ёсць. Хіба музей тутэйшага пісьменніка пакуль не створаны.

Я хадзіў па зацішных брукаванках Казіміра Дольнага і прыгадваў гразкія вуліцы Турава. А Тураўскае княства нароўні з Полацкім можа прэтэндаваць на лаўры першабеларускай дзяржавы!

Я бавіў час за куфлем піва ва ўтульнай "Зялёнай таверне" і пад гукі піяніна ўспамінаў зэльвенскую прыдарожную забягалаўку "Встреча", дзе піва наліваюць у такі посуд, што яно адразу пачынае нагадваць нешта супрацьлеглае...

Я сядзеў на імшы ў тамтэйшым касцёле, разглядаў незвычайны кандэлябр з пасіных рагоў, і мне рабілася непамысна ад думкі, што з дзярэчынскага храма падчас аднаўлення вывезлі смецця ажно пятнаццаць трактароў "Владимирец", празваных у народзе "лапатунамі".

Заняпад калісьці слаўных паселішчаў гістарычна абумоўлены, патлумачыць мне разважлівы чытач. Збудавалі наводдаль чыгунку, праклалі новую дарогу, сплытчэла рака — і пайшоў гандаль іншымі шляхамі.

Гэта памяць наша пайшла іншымі шляхамі.

Дзярэчын і сёння стаіць на даволі бойкім месцы — на скрыжаванні дарог Слонім — Ваўкавыск — Гародня. Да бліжэйшай чыгуначнай станцыі ў Зэльве — 12 кіламетраў. Да Слоніма — 34, як і да Мастоў. Да абласнога цэнтра — 120, дзве гадзіны на аўтобусе. Да колішняй сталіцы Вялікага Княства Літоўскага — Навагрудка — прыблізна столькі сама. Жыхароў, паводле аднаго з апошніх перапісаў, — 991 (для параўнання — у 1878 годзе іх было 2 269 чалавек).



*Дзярэчынскі палац Сапегаў.*

**Фота Я. Булгака. 1933 год.**

Сённяшняя колькасць жыхароў у мястэчку была ўжо напрыканцы XVII стагоддзя, калі ім завалодаў княжацкі род, пры якім Дзярэчыну было наканавана перажыць найбольшы росквіт. 22 верасня 1685 года дачка маршалка Вялікага Княства Літоўскага Аляксандра Гіляра Палубінскага Ізабела Алена выходзіць замуж за стольніка Вялікага Княства Літоўскага Юрыя Станіслава Сапегу. Мястэчка ад Палубінскіх пераходзіць да новых уладальнікаў. Ад гэтай пары амаль паўтара стагоддзя Дзярэчын належаў Сапегам. І яны паказалі сябе нядрэннымі гаспадарамі.

У другой палове XVII стагоддзя ў самім Дзярэчыне і прыналежных да яго прысёлках (слова "вёска" з'явілася толькі ў XIX стагоддзі) на адзін сялянскі двор прыпадае 0,8 умоўнай запрэжкі (адну запрэжку складалі конь і два валы). У XVIII стагоддзі кожная сялянская гаспадарка прыдбала сабе па адным кані. Як на сённяшні дзень, тагачасныя сяляне жылі зусім не бедна. Мяркуйце самі: на сярэднюю сялянскую сям'ю прыпадала 3 каровы, 5 авечак, 3 свінні і 1 каза.

У сапегаўскіх маёнтках выкарыстоўвалася двухразовае ворыва зямлі. Дзярэчынскі селянін таксама мог паўтарыць наўслед за летапісцам XVI стагоддзя: "Кгды час оранья пришел и я тыи нивки первый и другой раз орал и жито засеял". Сеялі на пагноях альбо на прастаполлі (без выкарыстання ўгнаенняў). У XVIII стагоддзі ў Дзярэчын упершыню было завезена гатунковае насенне (арабская пшаніца, егіпецкае, шведскае і саксонскае жыта, вугорскі авёс). У інвентарных апісаннях прынямонскіх мястэчкаў XVI—XVII стагоддзяў пералічваецца звычайная і для нашага стала гародніна: капуста, цыбуля, морква, гуркі, буракі, пятрушка, рэпа. У мястэчковых садах спелі вішні, яблыкі, грушы, чарэшні, агрэст, парэчкі — таксама звыклыя і для нас ласункі. Але складальнік аднаго з інвентароў зафіксаваў у Дзярэчыне экзатычны на той час вінаград.

Не дзіва, што дзярэчынцы мелі ў сваіх засеках жыта заморскіх гатункаў і ласаваліся вінаградам. Дзярэчын ужо тады быў партовым мястэчкам — праз Шчару і Нёман меў выйсце да Балтыйскага мора. Яшчэ славуты Леў Сапега, які з 1585 года займаў пасаду слонімскага старосты, пабудаваў на Шчары цэлую флатылію. У Каралявец, Гданьск і Рыгу з наднямонскіх лясоў вывозілі каштоўную драўніну. Асабліва шмат экспартавалі попелу, які нарыхтоўваўся ў адмысловых лясных будах. Так на працягу 1598—1599 гадоў на Каралявец было адпраўлена 326 ланштаў попелу (адзін лашт складаў 120 пудоў). Вывозілі таксама збожжа, футра, воск, скуры — на рынках Нямеччыны, Чэхіі, Італіі тавары з Вялікага Княства Літоўскага ішлі нарасхват.

Аднак не заўжды ўсё ладзілася ў новых гаспадароў Дзярэчына, і ў 1711 годзе Юры Станіслаў Сапега закладвае Дзярэчын за 54 000 фунтаў цеханоўскаму падчашаму Уладыславу Астроўскаму ды ягонай жонцы Марыяне з Марозаў. Праз дванаццаць гадоў Антон Сапега выкупляе мястэчка, каб праз сем гадоў ізноў закласці яго нейкаму Фларыяну Булгарыну за 55 000 залатых. У 1739 годзе Дзярэчын вяртаецца ва ўласнасць Сапегаў. Неўзабаве Аляксандр Сапега прадае мястэчка за 140 000 залатых свайму дзядзьку Міхалу, падляшскаму ваяводу. Пры апошнім у 1750 годзе ў Дзярэчыне атабарыўся канвент віленскіх айцоў-дамініканаў. Пасля смерці Міхала Дзярэчынам валодае Міхал Ксаверы, паводле тастаменту якога мястэчка пераходзіць да ягонага брата Аляксандра Міхала Сапегі, канцлера Вялікага Княства Літоўскага.

Апошні распачынае тут актыўную гаспадарчую дзейнасць. На той час да Дзярэчына належала 14 маёнткаў і 55 вёсак з 959 валокамі земляў (адна валока раўняецца 21 гектару). У агульнай колькасці гэта было 1 508 дамоў, 10 000 чалавек. Сёння столькі жыве ў раённым цэнтры Зэльва (Дзярэчын з 1966 года стаў належаць да Зэльвенскага раёна, пабыўшы перад гэтым у Ваўкавыскім і Мастоўскім).

У другой палове XVIII стагоддзя ў сельскай гаспадарцы Вялікага Княства пачынаюць выкарыстоўвацца веялкі, ці, як іх тады называлі, "арфы", альбо "млыны для ачысткі зерня". На пачатку 90-х гадоў у Дзярэчыне ўжо працавала шэсць такіх "арфаў", завезеных з Каралеўца.

Вядома, па плыткаводнай Сіпе да Дзярэчына не магло падняцца ніводнае судна, нават самая пласкадонная барка. Таму Аляксандр Міхал Сапега збудаваў на Шчары, пры паселішчы Воля, уласную прыстань, да якой было ўсяго некалькі вёрст. Гандлёвая флатылія плавала па маршруце Дзярэчын — Каралявец. З Балтыкі ў дзярэчынскія ваколіцы водным шляхам дастаўляліся лісабонская, гётэборгская і пруская соль (да адкрыцця беларускіх радовішчаў пройдзе яшчэ нямала часу), жалеза, французскае віно і англійскае піва, шкло і шклатара, разнастайнае абсталяванне.

(Працяг будзе).

АСОБА

# СКАРБЫ ФЁДАРА ШКЛЯРАВА





(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стр.).

Многія кнігі траплялі да Фёдара Рыгоравіча ў аварыйным стане. І ён рэстаўрыраваў іх, "апранаў" у новыя вокладкі, упрыгожаныя ўласнай чаканкай. Шкляраў, як і належыць народнаму ўмельцу, валодаў многімі спецыяльнасцямі. "У мяне іх каля 25, і ўсе — самавукам". Ну а пра кнігі, якія ён збіраў, ведаў столькі, што іншаму прафесару і не снілася. Па шрыфтах, па гравюрах адразу пазнаваў ён майстрадрукара. Неяк адзін са сталічных наведвальнікаў хатняга музея Шклярава здзіўлена перапыніў яго рассказ пытаннем: "Адкуль вы гэта ведаеце?" Але не здзіўляўся б той вучоны муж, калі б меў магчымасць бліжэй пазнаёміцца з Фёдарам Рыгоравічам. Бо ў аснове яго ведаў была нястомная прага пазнання і адкрыцця духоўнай спадчыны, пакінутай нам продкамі. Спадчыны, якая ў літаральным сэнсе слова валялася пад нагамі, жыла сама па сабе, не запатрабаваная тымі, каму прызначана.

Фёдар Шкляраў усё сваё жыццё пражыў на адным месцы, у невялікім правінцыяльным гарадку, не маючы ніякай спецыяльнай адукацыі, але валодаў энцыклапедычнымі ведамі і ніколі не быў правінцыялам. Сам ён тлумачыў пра сябе так: "Чалавек можа жыць на адным месцы і, акрамя белых і падбярозавікаў, не бачыць іншых грыбоў. Так і некаторыя мастакі. Можа, не ўсё чалавек спасцігне, зразумее — таленту не хопіць. Але імкнуцца да гэтага неабходна. Трэба вельмі хацець. Шкада, калі жыццё ў чалавека пройдзе, а ён так і не ўбачыў таго цікавага, цудоўнага, што яго акружала".

Была ў Фёдара Рыгоравіча адна цікавая задума: падрыхтаваць альбом заставак рукапісных кніг з сваёй калекцыі. Майстэрства афармлення рукапіснай кнігі дасягнула ў старажытнасці высокага ўзроўню. Тысячы старонак можна перагартаць, але нідзе не сустрэць двух аднолькавых малюнкаў, дзвюх загалоўных літар, пісаных па аднаму шаблону. Кожны малюнак, рамка, застаўка, віньетка — арыгінальныя па задуме, кампазіцыі і выкананню. Сярод іх сустракаюцца сапраўдныя шэдэўры, што здзіўляюць свежасцю і яркасцю фарбаў, тонкасцю мініяцюрнага малюнка. Зробленыя рукамі невядомых майстроў, яны не менш, чым сам тэкст кнігі, з'яўляюцца каштоўным матэрыялам для вывучэння нашай старадаўняй культуры.

Неяк не ўдалося мне высветліць, ці ажыццявілася гэтая даўняя задума Фёдара Рыгоравіча. Але вось другая, самая галоўная мара, пра якую ён мне тады расказваў, ажыццявілася, стала явай, хаця патрачаны на яе ажыццяўленне не адзін год, — стварэнне на аснове калекцыі Шклярава дзяржаўнага музея ў Ветцы. Не, ад калекцыі Фёдара Рыгоравіча не адмаўляліся, і тое, што музей патрэбны гораду, таксама ніхто не адмаўляў. Але спачатку ніяк не маглі чыноўнікі згадзіцца, што дырэктарам музея стане сам Шкляраў, таму што бачылі яны ў ім толькі чалавека без адукацыі, дыплома, які ўхітрыўся неяк сабраць каштоўную калекцыю. А для Фёдара Рыгоравіча гэта было і крыўдна, і разам з тым перашкаджала, перакрэслівала яго планы і задумы, звязаныя з работай музея.

І ўсё ж музей быў створаны, і дырэктарам яго стаў Фёдар Рыгоравіч. А дзве яго дыпламаваныя памочніцы не толькі ахвотна падпарадкоўваліся кіраўніцтву свайго недыпламаванага шэфа, але і былі ўдзячныя выпадку, які звёў іх з такім чалавекам. На жаль, ён рана пайшоў з жыцця, але паспеў стварыць сабе такі дзівосны рукатворны помнік — музей, пра які пачулі не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Пару гадоў назад у Галандыі праходзілі Дні культуры Беларусі, і з Веткаўскага музея павезлі туды некалькі старадаўніх ікон мясцовага пісьма і ручнікі славутых неглюбскіх ткачых (вёска Неглюбка ў Веткаўскім раёне знаходзіцца). І захапляліся імі галандцы, а іх не так проста нечым здзівіць.

...Калі мы развітваліся з Фёдарам Рыгоравічам — а прабыла я ў яго тады шэсць гадзін! — ён працягнуў мне незакончаную рукапісную кнігу "Святцы" (каляндар), якую вырашыў закончыць ужо ў наш век такім чынам: кожны наведвальнік яго музея пакідае ў ёй сваё ўражанне-водгук і аўтограф. Я не помню ўжо, што напісала тады — вядома ж, гэта былі нейкія ўсхваляваныя словы. Але саму нашу сустрэчу помню да драбніц і ўдзячная лёсу, што на журналісцкіх шляхах-дарогах сустрэла такога чалавека — Фёдара Шклярава, жыццё якога было дзіўна прыгожае і напоўненае.

**Лідзія ЧАРНОВА.**

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ



Я, Бабіцкі Пятро Ігнатавіч, 1936 года нараджэння, маю патрэбу ў вышуку па фотаздымках сваіх сваякоў, магчыма, па лініі бацькі, Бабіцкага Ігната Аляксеевіча, які меў брата Івана Аляксеевіча, жанатага на цётцы Надзі. Я тады быў малы, дрэнна памятаю. Ведаю, што мая мама, Бабіцкая (дзявочае прозвішча — Кавалёва) Вольга Анісімаўна, падтрымлівала нейкую пісьмовую сувязь, але былі часы "халоднай вайны", і перапіска скончылася, адрас не захаваўся. Я мяркую, мае родзічы знаходзяцца ў адным са штатаў ЗША, а, можа, у якой-небудзь іншай краіне, куды выязджалі беларусы ў пошуку лепшай долі.

**Адрас Бабіцкага П. І.: 213956, паштовае аддзяленне Чыгірынка, Кіраўскі раён, Магілёўская вобласць, Беларусь.**

*Подпіс:* **"1951 год. На доўгую памяць Вам. Гэта дзеці нашай Вольгі: Сцяпан 8 гадоў, Ніна 6 гадоў, Адара 5 гадоў,** *(неразборліва)* **3 гады, Міхаіл 1 год."**



*Подпіс:* **"Гэта ваша цётка і бабуля Вольга і дзядзька Міша. Іншыя двое М.** *(неразборліва)* **бацька і маці."**



*Без подпісу.*

# ДНІ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛАТВІІ

У ліпені ў Рызе па ініцыятыве беларускай дыяспары Латвіі, пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Беларусь у Латвійскай Рэспубліцы прайшлі "Дні культуры, майстэрства і традыцый беларускага народа", у якіх прынялі ўдзел майстры народнай творчасці па ткацтву, пляценню беларускіх паясоў, пляценню са стружкі-габлюшкі, вырабу беларускай нацыянальнай вопраткі Лепельскага раённага Дома рамёстваў, майстры па саломапляценню з Мінска А. Грэсь і Г. Грэсь.

Урачыстае адкрыццё Дзён культуры адбылося ў Залатой зале Дома Латышскага таварыства і было прымеркавана да Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел пасол нашай рэспублікі ў Латвіі М. Марыніч, старшыня таварыства беларускай мовы "Прамень" М. Буры, дырэктар цэнтра нацыянальнага адзення "Sena Klets" М. Грасманэ, прадстаўнікі іншых нацыянальна-культурных аб'яднанняў Латвіі, якія адзначалі, што гэтыя Дні ўяўляюць сабой яшчэ адзін крок у развіцці адносін паміж нашымі краінамі. На ўрачыстым адкрыцці Дзён культуры таварыству беларускай мовы "Прамень" перададзены ткацкі станок і жаночы нацыянальны касцюм ручнога вырабу.

У рамках Дзён прайшла выстава "Майстэрства і традыцыі беларускага народа", народнае свята "Купалле", семінар "Фальклор, абрады і традыцыі беларускага народа".

Заключныя мерапрыемствы Дзён культуры адбыліся ў народным парку "Стабурагс" у Сеце Айзкраўклькага раёна. Тут прайшлі выстава і майстар-класы беларускіх і латышскіх народных майстроў, канцэрт творчых самадзейных калектываў нацыянальных аб'яднанняў Латвіі.

Аб правядзенні мерапрыемстваў паведамлялася па латвійскім радыё і тэлебачанні, выйшаў спецыяльны святочны нумар газеты беларусаў Латвіі "Прамень".

Трэцяга ліпеня адбылася яшчэ адна значная падзея — адкрыццё ў Даўгаўпілсе Цэнтра беларускай культуры, дзе беларускаму таварыству "Уздым" было перададзена 12 нацыянальных сцэнічных касцюмаў для жаночага вакальнага ансамбля "Купалінка".

У час правядзення азначаных мерапрыемстваў пасол Рэспублікі Беларусь М. Марыніч сустрэўся з міністрам культуры Латвійскай Рэспублікі К. Петэрсоне. Былі абмеркаваны пытанні развіцця беларуска-латвійскіх адносін у галіне культуры, перспектывы падпісання міжведамаснага пагаднення аб супрацоўніцтве паміж міністэрствамі культуры абедзвюх краін.

М. Марыніч праінфармаваў латвійскі бок аб супрацоўніцтве ў галіне культуры з суседнімі краінамі, аб існуючым ў гэтай сферы заканадаўстве. К. Петэрсоне выказала задавальненне падыходам беларускага боку да развіцця культурных адносін, падкрэсліла, што Латвія аказвае дапамогу латвійскім калектывам, якія прымаюць удзел у фестывалях і конкурсах, што праводзяцца ў Беларусі.

Пры абмеркаванні міжведамаснага пагаднення аб супрацоўніцтве ў галіне культуры К. Петэрсоне паведаміла, што яго падпісанне намечана ў ходзе візіту прэм'ер-міністра Латвіі У. Крыштопанса ў Беларусь у гэтым годзе.

**А. БАБІЦКІ.**

**УРАЖАННІ**

**Шаноўная рэдакцыя! Маё прозвішча — Надзея Панасюк, я беларуска, родам з Беласточчыны, жыву і працую ў Варшаве. З'яўляюся пастаянным чытачом вашага тыднёвіка. "Голас Радзімы" праз свае публікацыі прыбліжае нас да Беларусі, падае таксама звесткі пра беларусаў замежжа. Неаднойчы здаралася мне чытаць у вашым выданні пра жыццё беластоцкіх беларусаў, пра культурныя мерапрыемствы, што праходзілі ў Польшчы. У беларускім друку з'яўляюцца таксама творы беластоцкіх беларускамоўных пісьменнікаў. Беларускім чытачам вядомае прозвішча і творчыя дасягненні В. Шведа (у Беларусі выдаў два зборнікі паэзіі "Дружба" і "Мая зялёная Зубровія").**

**У апошні час Швед многа піша для дзяцей, выдаў два вартыя ўвагі зборнікі дзіцячай паэзіі "Вясёлка" (1991) і "Вершы Натальцы" (1998).**

**Увазе рэдакцыі і беларускіх чытачоў прапаную свае ўражанні ад кніжкі "Вершы Натальцы", прысвечанай дачцэ паэта.**

**З сяброўскім прывітаннем**
**Надзея ПАНАСЮК.**

**Варшава, 1.08.1999 г.**

# ПАЭТЫЧНЫ ЛЕТАПІС НАТАЛЬЧЫНАГА ДЗЯЦІНСТВА

Свайго часу беластоцкі тыднёвік "Ніва" адзначаў 70-годдзе Віктара Шведа. Сярод многіх віншаванняў, артыкулаў і водгукаў маю ўвагу звярнуў юбілейны артыкул "У вернай пагоні" С. Яновіча. Сябар па пяру і непрымірымы крытык заўважыў: "Дэкларацыі тыпу: я — беларус!", на шчасце, не дамінуюць ягонай таленавітасці. Майстэрства дасягае Віктар у дзіцячай паэзіі, на якую здольныя ўсяго некаторыя, — асобы гатунак Божага дару. Гэтая адметнасць у яго прагледжваецца ад дэбютанцкіх радкоў. У Віктаравай існасці пасяліліся як быццам два паэты. Першым залез у яго душу менавіта пясняр прападаючага свету, з па-фальклорнаму зразумелымі метафарамі, са словамі, што самі кладуцца ў нескладаную мелодыю, лёгка запамінаюцца. Затым аб'явілася Віктару лірыка маленькага чалавечка, якому ўласціва небанальная першыня — маміна фраза, чайнік на пліце, кот на ляжанцы, певень на плоце, матацыкл на вуліцы, самалёт у небе... У сваім водгуку хачу звярнуць увагу на другую існасць Шведавага таленту — на дзіцячую паэзію, а канкрэтна, на зборнік "Вершы Натальцы".

У апошнія гады, а дакладней, ад нараджэння дачкі, лірыка маленькага чалавека амаль поўнасцю завалодала літаратурнай творчасцю В. Шведа. У першую гадавіну нараджэння дачкі паэт выдаў прысвечаны ёй паэтычны зборнік "Вясёлка". Дзіцячыя вершы паэт публікуе амаль у кожным нумары "Зоркі". А мінулым летам да чытачоў трапілі вершы, адрасаваныя Натальцы. У размове з журналісткай "Нівы" А. Чэчугай пісьменнік прызнаўся: "...Вершаў для дзяцей у мяне каля дзвюх тысяч. Звыш шасцідзесяці я пераклаў на польскую мову. Хачу выдаць зборнік на польскай мове, каб і да польскіх дзяцей дайшла мая паэзія". Будзем чакаць.

Зборнік дзіцячай паэзіі Віктара Шведа "Вершы Натальцы" выйшаў з друку летам 1998 года (няхай мне даруе аўтар запозненны водгук на ягоную кніжку). Кніжку, прадыктавалі паэту бацькоўская любоў да дачкі і пачуццё адказнасці за выхаванне яе добрым чалавекам, свядомай беларускай.

Прысвечаныя дачцы вершы з'яўляліся на працягу сямі гадоў: ад нараджэння 18 верасня 1990 года да 15 верасня 1997 года, да моманту, калі сямігадовая Наталля заявіла бацькам: "Я не дзіця, а моладзь".

Большасць сабраных у кнізе і адрасаваных Наталлі, Натальцы, Наташы, Наце (так пяшчотна "скланяе" імя дачкі бацька) вершаў цыклічна, на працягу гадоў публікаваліся ў "Зорцы" і склалі своеасаблівы паэтычны запіс бацькоўскага захаплення дачкой. Першую ацэнку гэтыя творы атрымалі ад дзяцей — чытачоў "Зоркі". Аднак сабраныя і выдадзеныя асобнай кнігай, прадстаўляюць некалькі іншае вымярэнне. Складаюць ужо цэласны мастацка і метадычна апрацаваны зборнік, ілюстраваны светлымі акварэлькамі Таццяны Місіюк.

Віктар Швед з'яўляецца аўтарам некалькіх зборнікаў і шматлікіх твораў, прысвечаных для дзіцячага ўзросту, але кніга "Вершы Натальцы" — гэта адметнасць у беларускай дзіцячай паэзіі. Кніжак, прысвечаных сваім найбольш блізкім, крэўным, у беларускай творчасці для дзяцей, можна сказаць, не было.

Змест зборніка складаюць вершы Натальцы і паэтычныя запісы бацькі пра Натальку. Кнігу распачынае цыкл "Мы дачакалі доні Наталлі", у якім змяшчаюцца вершы дыфірамбічнага характару ("Вітаем доню ў нашай хаце", "Малы юбілей", "Хрэсьбіны"). У гэтых творах паэт заключыў летапіс сямігоддзя Наталлі, апісаў радасці, мары і жаданні бацькоў, якія з замілаваннем адзначаюць яе вялікія і маленькія святы.

Чарговыя цыклы ("У прадшколлі шмат раздолля", "У нашай Наты думак багата", "Прыгоды з прыродай", "Час прыгожы падарожжаў") з'яўляюцца ўжо падрабязным апісаннем будняў і святаў, гульняў, вандровак па вуліцах горада, паездак на ўлонне прыроды, пабыўкі на моры і многіх іншых штодзённых заняткаў.

На мой погляд, "Вершы Натальцы" — гэта зборнік займальнай дзіцячай паэзіі і лірычны даведнік інтэлектуальнага і эмацыянальнага развіцця дзяцей. Рэкамендуючы яго дзецям, маю надзею, што зацікавяцца ім таксама дарослыя, што паэтычныя доследы В. Шведа логікі дзіцячага мыслення будуць скарыстаныя ў выхаваўчай і адукацыйнай працы.

**Н. П.**

**ЗАМЕЖЖА**

# БЕЛАРУСКІЯ ЯЎРЭІ Ў ЗША

● **Эмануіл ІОФЕ,** ***акадэмік Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей, прафесар, доктар гістарычных навук.***

Менавіта амерыканская зямля стала месцам апошняга прыстанішча вядомага савецкага разведчыка, кіраўніка савецкай разведвальнай сеткі ў Еўропе, перабежчыка Аляксандра Арлова (сапраўднае імя і прозвішча Лейб Лазаравіч Фельдбінг, дзейнічаў таксама пад прозвішчам Шведа, Мікалаева, Берга). Ён нарадзіўся ў Бабруйску 21 жніўня 1895 года. У 1926—1930 гадах Арлоў на нелегальнай разведвальнай рабоце ў Францыі, а затым на кіруючай у цэнтральным апараце АДПУ ў Маскве. З 1933 года ўзначальваў савецкую рэзідэнцыю ў Вялікабрытаніі. У 1935 годзе Арлову было прысвоена званне маёра дзяржбяспекі. З 1937-га ён быў рэзідэнтам НКУС у Іспаніі і адначасова займаў пасаду саветніка па пытаннях бяспекі пры рэспубліканскім урадзе Іспаніі. А. Арлоў узнагароджваўся самымі высокімі ўзнагародамі СССР — ордэнамі Леніна і Чырвонага Сцяга. Сталін даверыў яму дзяржаўную місію перавезці залаты запас Іспаніі (800 тон) у Савецкі Саюз параходам з Картахены ў Адэсу. Калі вясной 1938 года Арлову прыйшоў загад за подпісам Сталіна вярнуцца ў СССР з Барселоны, ён, апасаючыся арышту, уцёк у Парыж. 11 ліпеня 1938 года Арлоў стаў перабежчыкам. З Францыі ён выехаў у Канаду, дзе, маючы на руках дыпламатычны пашпарт на імя Берга, аформіў дазвол на жыхарства ў ЗША. Ён жыў у цені як прыватная асоба да смерці Сталіна. Па некаторых звестках, А. Арлоў ведаў аб славутым савецкім разведчыку Філбі ("наш заіка пры Франка". Філбі на самай справе заікаўся і быў карэспандэнтам газеты "Таймс" пры Франка, ствараючы вобраз антыкамуніста па падказцы з ДПУ), ён сказаў аб ім толькі перад смерцю. Па ўласных словах Арлова, ён папярэдзіў Троцкага па тэлефонеаўтамаце аб замаху, што рыхтаваўся на яго (аб якім ён, без сумнення, ведаў), але Троцкі яму быццам бы не паверыў. Таксама, па яго словах, Сталін пакінуў яго ў спакоі (і яго маці ў СССР), паколькі ён быццам бы меў доказы супрацоўніцтва Сталіна з царскай ахранкай. Серыя артыкулаў А. Арлова "Тайная гісторыя сталінскіх злачынстваў" у амерыканскім часопісе "Лайф" выклікала сенсацыю. У тым жа 1953 годзе выйшла яго асобная кніга пад такой жа назвай. У канцы 1980-х гадоў яна выйшла ў СССР у "Библиотечке "Огонька". Па афіцыйнай савецкай версіі, "яго (Арлова. — **Э. І.**) веданне аперацый ДПУ—НКУС па ўсім свеце было ўсеабдымным. Аляксандр Арлоў памёр у амерыканскім горадзе Кліўлендзе 7 красавіка 1973 года, на 78 годзе жыцця. Але гісторыя яго жыцця і дзейнасці пакуль яшчэ па-сапраўднаму не высветлена.



Апошнія 43 гады жыцця знаходзіўся ў ЗША камандзір яўрэйскай партызанскай брыгады (брыгады імя М. Калініна), ураджэнец вёскі Станкевічы (каля Навагрудка) Туўя Бельскі (1906—1987). Гэта брыгада дзейнічала ў раёне паміж Навагрудкам і Налібоцкай пушчай. Партызаны Бельскага наганялі страх на ўсю акругу сваімі аперацыямі помсты, накіраванымі супраць фашыстаў, паліцэйскіх і іншых памагатых гітлераўскіх катаў. У пачатку 1943 года фашысцкія акупацыйныя ўлады апублікавалі аб'яву аб узнагародзе (100 000 нямецкіх марак) за садзейнічанне ў выяўленні і затрыманні Т. Бельскага. Да ліпеня 1944 года брыгада імя М. Калініна налічвала 1 230 чалавек.



Пасля заканчэння вайны Т. Бельскі вярнуўся ў Польшчу. У

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 29-31.**

**ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ**

# ДЫНАСТЫЯ БАРХАТКОВЫХ

## — ГЭТА ЦЭЛАЯ ЭПОХА Ў БЕЛАРУСКІМ ВЫЯЎЛЕНЧЫМ МАСТАЦТВЕ



БАРХАТКОВЫ.

**Адзін з старэйшых айчынных мастакоў Антон Бархаткоў, самазабыўна адданы рэалістычнаму пейзажу класічнай школы жывапісу, здолеў перадаць не толькі любоў да мастацтва, але і сакрэты майстэрства сваім сынам, нявестцы, дапамагае фарміравацца ўнукам, і, дасць Бог, усе разам Бархатковы пяройдуць міжвекавы рубеж і ўвойдуць у XXI стагоддзе, увасабляючы ўсё лепшае, што ёсць у пейзажным жывапісе Беларусі.**

Ігар, сын Антона Сцяфанавіча, — шчаслівычык. Ён адораны незвычайным талентам, валодае неверагоднай працаздольнасцю, мэтанакіраваны ў самаадукацыі і ўдасканаленні.

Лёгкасць, з якой Ігару Бархаткову давалася вучоба ў тэатральна-мастацкім інстытуце і акадэмічнай майстэрні М. Савіцкага, вядома, уяўная. На самай справе, ім рухала жаданне спасцігнуць усе сакрэты майстэрства для таго, каб свабодна адчуваць сябе ў мастацтве. Да віртуознага валодання жывапісам ён прыйшоў не адразу. Для гэтага спатрэбіліся гады вучобы не толькі ў бацькі, іншых педагогаў, але і ў майстроў мінулага, глыбокія веды гісторыі сусветнага мастацтва. Сёння не многія мастакі вылучаюцца такімі вялікімі і глыбокімі ведамі ў галіне тэорыі мастацтва, як Ігар Бархаткоў.



Бадай, самай галоўнай школай для Ігара з'явіліся шматлікія паездкі з бацькам на "Акадэмічную дачу" у Цвярскую губерню, куды на працягу ўсяго стагоддзя збіраюцца жывапісцы для пленэрнай работы. Менавіта там, у абсалютным адзінстве з прыродай, у спрыяльнай творчай атмасферы шліфавалася майстэрства, сфарміравалася патрэба пачынаць і заканчваць пейзаж на натуры, што з'яўляецца неад'емнай часткай традыцыі рускага пейзажнага жывапісу.

Часам людзі, незнаёмыя з тонкасцямі мастацтва, думаюць, што рэалізм заключаецца ў дакладнай перадачы натуры. Вялікая памылка. Рэалістычны твор — гэта пачуццё ад убачанай натуры, народжанае розумам і сэрцам мастака. У час работы пейзажыст знаходзіцца ў пастаянным дыялогу з прыродай, забываючыся пра сябе, пра час.

Бархаткоўскі пейзаж — інтымны. Гэта свет для дваіх, у які аўтар запрашае гледача. Гармонія і веліч лепшых палотнаў Ігара дасягаецца не толькі за кошт удалага выбару матыву і ўжо, вядома, не за кошт памеру палатна, бо піша ён у асноўным невялікія карціны, у чым таксама прытрымліваецца традыцый, а хутчэй дзякуючы дасканалай кампазіцыйнай пабудове, якая надае асаблівае гучанне аб'екту ўвагі.

Усё ў яго работах зразумела, даходліва, але застаецца загадкай сутнасць майстэрства. Сюжэты палотнаў Бархаткова заўсёды побач — звыклыя воку кранальныя сельскія ландшафты. Здараецца, мастакі-аматары, якія выстаўляюць свае творы ў мінскім скверы на плошчы Свабоды, капіруюць Бархаткова: спадзяюцца тым самым атрымаць ключ да папулярнасці ў пакупнікоў. Але, як бы яны ні стараліся, паўтарыць сапраўднага майстра немагчыма.

Сакрэт поспеху І. Бархаткова ў тым, што галоўны герой яго твораў — не той стары клён або вішня, куст бэзу, што выпісаны на палатне, а святло. Ён умее ўдыхнуць у палатно водар палёў, веснавую свежасць, сонечную прамяністасць, напісаць зіму так, што стоячы перад палатном, адчуваеш, як нос ледзянее ад марознага ветра. Гэта паўтарыць нельга.

Сілай свайго абаяння і неўтаймаванай энергіі Ігар уплывае на ўсіх, з кім сутыкаецца ў жыцці і творчасці. Яго сям'я — сустрэча двух талентаў. Алена закончыла Мінскае мастацкае вучылішча, пасля чаго працягвала адукацыю ў сямейнай творчай садружнасці. Па-жаночы больш тонка ўспрымаючы колер, яна ідзе сваёй дарогай у мастацтве, застаючыся адданай бархаткоўскім традыцыям. Яе работы надзвычай жыццярадасныя, палітра гучная, насычаная пачуццямі.

Вялікі поспех мелі работы Алены ў Вільнюсе, дзе творчае аб'яднанне "Lasandr" праводзіла выставу сярэдняга пакалення Бархатковых. Можна было бачыць шчырае захапленне ў вачах наведвальнікаў, усё гэта нараджала пачуццё гонару за беларускую культуру. Аналагічныя меркаванні выказвалі і прадстаўнікі беларускага Пасольства ў Літве, якое дапамагала ў наладжванні выставы.



*БАРХАТКОЎ Антон. "Лістапад". 1980 год.*

Не апярэджваючы падзей, а толькі ў думках заглядваючы ў будучыню, можна меркаваць: падрастаючае ў сям'і Бархатковых пакаленне — Антон і Ігар — будуць працягваць у наступным стагоддзі тое, што пачаў іх дзед у гэтым.

**Ларыса БОРТНІК, мастацтвазнаўца.**



*БАРХАТКОЎ Ігар. "Часоўня". 1991 год.*




*БАРХАТКОВА Алена. "Яблыкі". 1993 год.*

1945 годзе ён выехаў у Палесціну, а з 1954 года жыў у ЗША. Цераз шэсць гадоў пасля яго смерці — у 1993 годзе ў Нью-Йорку выйшла вялікая кніга прафесара Нехамы Тэк "Партызаны Бельскага". На жаль, да гэтага часу ў Рэспубліцы Беларусь імя Туўі Бельскага вядома толькі вузкаму колу даследчыкаў гісторыі партызанскага руху. Гэтаму праслаўленаму партызанскаму камбрыгу не знайшлося месца ні ў адной энцыклапедыі, якія выйшлі ў свет у Беларусі.

Усяму свету вядома імя амерыканскага акцёра, рэжысёра і прадзюсера Кірка Дугласа. Шырокую папулярнасць у розных краінах прынясло яму выкананне галоўнай ролі ў фільме "Спартак" (1960 год). Многім гледачам запомнілася ігра Кірка Дугласа ў фільмах "Дэтэктыўная гісторыя", "Уліс" (у савецкім пракаце "Вандроўкі Адысея"). Кінакрытыкі лічаць укладам у сусветнае кінамастацтва выкананне ім ролі мастака Ван Гога ў фільме "Прага жыцця" (1956), галоўных роляў у кінафільмах "Гультай" (1972) і "Атрад" (1976).

За сваю кінематаграфічную дзейнасць Дуглас неаднаразова атрымліваў самыя прэстыжныя прэміі і ўзнагароды, а ў 1981 годзе прэзідэнт ЗША ўзнагародзіў яго "Медалём за Свабоду".

Не ўсім вядома, што сапраўднае імя і прозвішча Кірка Дугласа — Ісур Даніловіч. Па некаторых даных, ён нарадзіўся ва Усходняй Польшчы ці Заходняй Беларусі 9 снежня 1916 года. У 20-я гады прыехаў у ЗША, дзе праславіўся на ўвесь свет.

Вось ужо 22 гады, з 1977 года, жыве ў ЗША адзін з самых вядомых у свеце майстроў дэтэктыўнага жанру Фрыдрых Нязнанскі. Гэты юрыст і пісьменнік нарадзіўся каля Гомеля ў 1932 годзе. Ён скончыў Маскоўскі юрыдычны інстытут і 25 гадоў працаваў у савецкай прававой сістэме. Нязнанскі ўваходзіў у Маскоўскую калегію адвакатаў і паспяхова займаўся літаратурай. Ён быў здольным публіцыстам і празаікам. Сааўтарам шэрагу кніг Фрыдрыха Нязнанскага стаў вядомы пісьменнік Эдуард Тополь.

Апавяданні і кнігі Фрыдрыха Нязнанскага друкаваліся як на Захадзе, так і ў СССР. Амаль 20 гадоў назад — у 1980 годзе вялікую папулярнасць набыў яго раман "Мільён для чэмпіёнкі", напісаны сумесна з Э. Топалем. Сусветную вядомасць Нязнанскаму і Топалю прынесла кніга "Журналіст для Брэжнева, ці смяротныя гульні", выдадзеная ў Германіі ў 1981 годзе (а ў Маскве толькі ў 1996-м). Праз тры гады ў гэтай жа краіне выйшаў у свет дэтэктыўны раман Фрыдрыха Нязнанскага "Кірмаш у Сакольніках". Толькі праз восем год — у 1992 годзе гэтая кніга была выдадзена ў Расіі (у Смаленску).

Сябры называюць Ф. Нязнанскага працаголікам. Праца і талент пісьменніка стварылі дзесяткі цікавых раманаў. Здзіўляешся, што ўсё гэта напісаў адзін чалавек, за выключэннем некалькіх кніг, створаных у сааўтарстве з Э. Топалем.

У год ГКЧП — 1991-шы ён выдаў дэтэктыўны раман з арыгінальнай назвай "Скрыня Пандоры" ("Жнівень у Маскве"). Я яшчэ помню чэргі ў нашых бібліятэках за дэтэктыўным раманам Ф. Нязнанскага "Аперацыя "Фаўст", які выйшаў у Смаленску ў 1992 годзе. Праз два гады — "Чырвоная плошча", напісаны Фрыдрыхам Нязнанскім і Эдуардам Топалем.

1995 год знамянальны ў жыцці Нязнанскага выхадам раманаў "Сіндыкат кілераў", "Кроўная помста", "Марш Турэцкага: Першая версія", "На зыходзе апошняй гадзіны", "Небяспечнае хобі", "Прыватнае расследаванне". Цікавыя і раманы Фрыдрыха Нязнанскага, выдадзеныя ў Маскве ў 1996 годзе. Гэта кнігі "Кантрольны выстрал", "Кароль казіно", "Накіраваны выбух", "Пярэварацень", "Памылка прэзідэнта", "Першая версія", "Плутоній для Ісуса", "Апошні маршал".

Чым жа вызначаецца ў літаратурнай дзейнасці Фрыдрыха Нязнанскага 1997 год? У першую чаргу, гэта раманы "Выбар зброі", "Дзяўчынка для шпіёна", "Гульня па-буйному", "Начныя ваўкі", "Аперацыя "Крышталь", "Адмарожаны". Толькі летась у Маскве выйшлі ў свет раманы Фрыдрыха Яўсеевіча "Ганцы смерці", "Змова генералаў", "Хто ёсць хто", "Ашыйнікі для ваўкоў", "Перабежчык", "Спатканняў не будзе", "Забойства на Нягліннай", "Чорныя банкіры".

Нягледзячы на свой узрост (67 год), Фрыдрых Нязнанскі знаходзіцца, як кажуць, у росквіце творчых сіл. Сёлета ў Маскве выдадзены яго раман "Шосты ўзровень", які адразу прыцягнуў увагу шматлікіх чытачоў, і перавыдадзены раман "Змова генералаў".

Нават гэты кароткі агляд паказвае, што беларускія яўрэі ўнеслі немалы ўклад у развіццё не толькі амерыканскай, але і сусветнай навукі і культуры, прынялі актыўны ўдзел у палітычным і грамадскім жыцці ЗША.

**ВІЦЕБСКУ—1025 год**










**У старажытным Віцебску — свята за святам. Апроч традыцыйнага летняга фэсту пад назвай "Славянскі базар", шагалаўскіх мерапрыемстваў, сёлета адзначаецца яшчэ і 1025 год з часу заснавання горада. І як на ўсякім дні нараджэння, тут панавала вяселле — песні, танцы, гульні, жарты. Па алеях парка гулялі прыгожыя паненкі з элегантнымі кавалерамі. Быў і добры пачастунак. Свята ўсё ж такі — дзень нараджэння!**

**НА ЗДЫМКАХ: "Дзень горада" ў Віцебску.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

**Уладзімір ЛІПСКІ**

# МАМА

## МАЛІТВА СЫНА

Мама!

Крычу спрасоння, калі бачу нешта страшнае.

Мамачка!

Клічу на падмогу, калі сяджу ў подцы на Нарачы, і, бывае, падчэпіцца на кручок цяжкая рыбіна.

Матулька родная!

Вырываецца з грудзей, калі нечаканая радасць ахоплівае маю душу.

Дай параду, Мама, як жыць і цярпець, як сябраваць і святкаваць!

Падкажы, любая, як у чарнобыльскім свеце захаваць здаровымі дзяцей, унукаў?..

Маўчыць мая святая. Лагодна пазірае з фоткі. На ёй — хустка з вузельчыкам пад барадой. Твар чысты, высакародны. Вочы адліваюць пяшчоту. І толькі недзе далёка-далёка, на сподзе душы, высвечваецца трывога: "Ох, сынок, хай беражэ цябе Бог!"

От і паспавядаўся перад Мамай.

Веру, лягчэйшым будзе цяжкі панядзелак.

* * *

Мама нараджала мяне ў Горвалі, у драўлянай лякарні. Быў панядзелак — цяжкі дзень.

Мама родная!

Ты зрабіла для мяне панядзелак пажыццёвым святам. У гэты дзень не жыву — лятаю. Светла думаецца. Хочацца працы, сустрэч, радасці і слёз.

Я пажыццёвы твой даўжнік, Мама.

Я вечны твой улюбёнец, матуля. Ты ў сорак два гады рашылася на подзвіг. Каб жа ты ведала, родная, як удзячны табе, што дала магчымасць спазнаць найвышэйшыя чалавечыя пачуцці і адчуць асалоду жыцця.

Мама!

Схіляю перад табой заснежаную галаву. І малю Бога, Айца нябеснага, каб узнагародзіў цябе вечным шчасцем і спакоем. Малюся за тваю чулую любоў, Мама, якой ты сагравала ў дні радасныя і ў дні хвароб. Можа, таму часта прачынаюся ноччу і хораша думаю пра цябе, прыгадваю, як ты сядзела нада мной, схварэлым, ды вуснамі грэла і горача туліла да сябе.

Мама!

Ты далёка ў нябёсах. І вельмі блізенька — у маёй душы, у маім сэрцы. І гэта повязь ніколі не парвецца. Малю дзяцей і ўнукаў, каб і яны навечна закінулі ў памяць твой дабраславёны вобраз. Цярпліва і доўга чакалі нас у сваім высокім царстве, бо хто ж тады будзе спраўляць ранішнія малітвы па табе на грэшнай і святочнай зямлі?..

* * *

Даруй, Мама, я ж дагэтуль не апісаў нашы Шоўкавічы.

Веру, вёска з такой назвай — адзіная на Беларусі.

Вёска з такімі людзьмі — адзіная ў свеце.

Мама мая Марыя — продак Маці Божай, Багародзіцы нашай, адзіначыстай і дабраславёнай, найсвяцейшай, пад міласць якой аддаю сябе і прашу ратавання. З ёй жыву!

У нашым чароўным паселішчы ў лепшыя часы было сорак дворышчаў. За агародамі панчынаецца векавы дубняк. З яго ўздымаецца на трон сонца.

Насупраць нашай хаты — вуліца, новыя сядзібы і сенажаць. Як вокам акінуць — мурожны дыван з чмялямі і кветкамі, з уюновай сажалкай і рэчкай, шырынёй з рукаў кашулі.

Калі ад нашай хаты пайсці па вуліцы налева, то выйдзеш у сасоннік ды бярэзнік. У іх будзеш спатыкацца на баравіках, махавіках, лісічках (іх у нас называюць "лісянкамі"), сыраежках, цыбатых падасінавіках. А праз два кіламетры выйдзеш на шашу Рэчыца — Светлагорск. Да Светлагорска, раней ён называўся Шацілкі, — дваццаць кіламетраў. Для маіх шоўкаўцаў гэта мястэчка доўга служыла станцыяй. Напраcткі, балотамі, а іншых сцяжын і не мелася, хадзілі пехатою. Раніцай — туды, вечарам — назад. І я, малым, аднаго разу вымераў гэту дарогу з сястрой Любай. Ногі з тыдзень гудзелі. Мама, помню, націрала іх усім вядомым ёй зеллем.

Калі ад нашага двара пайсці направа, то, мінуўшы хаты Пылінскіх, Калачоў, Мінютаў, Козічаў, Паклонскіх, Жарынаў, выйдзеш у Лазовіцу. Гэта — латка ворнай зямлі. Мне яна запомнілася ў той год, калі цвіла грэчка. Малінава-белай зрабілася Лазовіца. А над ёй — рой пчол. Кожны дзень прасіўся ў Мамы і бегаў слухаць пчаліныя сімфоніі. Яны гучаць і сёння ў маіх вушах.

А за гэтым палеткам, адразу ў сасонніку — вясковыя могілкі. Там спачываюць мае дзед Янка і бабка Праксэда, бацька Сцяпан і Мама Марыя, сястра Ліда, пляменнік Шурык, цёткі Анэта, Каця, Раіна, Жэня, дзядзькі Іван і Мікалай... Божа мой, пад крыжамі ды плітамі ляжыць больш шоўкаўцаў, чым іх засталося ў вёсцы. Малю дзяцей сваіх, мінчан, каб не забывалі, наведвалі пупавіну маю — Шоўкавічы.

Адразу за могілкамі пачынаюцца лясы, у якіх грыбоў, чарніц, буякоў, брусніц — вазамі вазі. А калі будзеш ісці проста па дарозе, то выйдзеш у вёску Чарнейкі. Ад яе — рукой падаць да Дабужы. Адтуль, праз Бярэзіну, трапіш у Вялікі Лес. Гэтым шляхам любіла хадзіць Мама.

Адзін раз у год, а калі пашчасціць і болей, вырываюся з тлумнага Мінска і лячу ў свае мілыя Шоўкавічы. Там жыве мой брат Пеця са сваёй Дзінай. Засяваюць бацькоўскі агарод, вартуюць іх памяць. Здаецца мне, што ўсе жывыя шоўкаўцы, старыя і малыя, — мая радня. Шкадую іх да слёз. Кожнаму хочацца працягнуць руку. А найбольш кране, калі называюць мяне, ссівелага, Валодзькам. Так называла мяне мая Мама.

Хаджу па апусцелым лесе, па някошанай сенажаці, і душа разрываецца ад крыўды. Чым жа правінаваціўся мае шоўкаўцы, што і на іх асела чарнобыльская хмара?

Мама родная!

Схадзі на прыём да свайго Цара нябеснага, заступіся за нас, вымалі паратунак для шоўкаўцаў. Папрасі ў Госпада спакойнай старасці старым, маладым — веры і надзеі ў заўтрашні дзень, а дзецям — вясёлага дзяцінства.

Мама любая!

Занясі просьбу маю Богу нашаму, збаў душы нашы ад трывогі, ахавай мяне пад покрывам тваім, як ахоўвала і берагла ў дзяцінстве. Мая душа і цяпер шукае літасці ў цябе, дык злітуйся нада мною, памілуй і блаславі, ахавай ад усялякага ліха. А я буду славіць імя тваё ў будні і святы, і столькі дзён, колькі будзе гарэць мая свечка. Амін.

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 29—31.**

**АНШЛАГ**

У Слонімскім беларускім драматычным тэатры адбылася прэм'ера рамантычнай камедыі для дзяцей "Маўглі".

Дзякуючы мясцоваму драматургу Аляксею Якімовічу, героі твора вядомага англійскага пісьменніка Кіплінга ажылі на тэатральнай сцэне. Менавіта ён напісаў п'есу паводле аповесці-казкі пра жыццё чалавечага дзіцяці Маўглі сярод звяроў. Калі Аляксей Якімовіч не навічок у драматургіі, то рэжысёр-пастаноўшчык спектакля Святлана Наўгародская — дэбютант.

Спектакль атрымаўся. Ён дапаможа юным гледачам зрабіць маленькую экскурсію ў амаль сапраўдныя джунглі, дзе існуюць свае законы, свае норавы і героі.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

## ГАВОРАЦЬ ДЗЕЦІ

На ўроку настаўніца расказвае пра творчасць Пушкіна, а потым пытае:

— Саша, як звалі няню Аляксандра Сяргеевіча?

— "Голубка, дряхлая моя", — адказвае вучань.

* * *

Настаўніца дала класу сачыненне на тэму: "Што б я зрабіў, калі б атрымаў мільён?" Праз паўгадзіны Ігар устаў з-за парты, падышоў да настаўніцы, трымаючы ў руках паперку з нейкімі разлікамі.

— Прабачце, а ці нельга дабавіць яшчэ шэсць мільёнаў?

* * *

На вуліцы дробны дождж з моцнымі парывамі ветру. Адным парывам у Сярожы вырвала парасончык і панесла па вуліцы. Сярожа робіць вывад:

— Мой парасон паляцеў сапраўдны дождж шукаць.

* * *

Праязджаючы каля тралейбуснага парка, Сярожа паказвае пальцам:

— Глядзіце, тралейбусы вушы прыціснулі, схаваліся, каб іх на работу не паслалі.

* * *

Сярожа расказвае свой сон:

— Мне прыснілася, што я гляджу тэлевізар, па якому паказваюць, як я сяджу і гляджу тэлевізар. Задумаўся. Спрабуе разабрацца:

— Нешта я зусім заблытаўся. Дзе ж я сядзеў: у тэлевізары ці каля тэлевізара? Мусіць, давядзецца яшчэ раз гэты сон перагледзець...

**К. КАРНЯЛЮК.**




*Ад камп'ютэра Дзіму не могуць адцягнуць нават бацька з сястрычкай Дзінай.*

**Леанід МАРАКОЎ**

## ДЗІМА І КАМП'ЮТЭР

**Дзіма вершык вывучаў, —**
**Раз чытаў і два чытаў,**
**Але вывучыць не змог —**
**Тут камп'ютар "дапамог", —**
**Думаў Дзіма не аб вершы,**
**А аб тым, хто будзе першы**
**У камп'ютарнай гульні,**
**Дзе быў хлопчык "на кані".**
**У гонках Дзіма проста "бог" —**
**Вось і зноў ён перамог...**

**Ну а ў школе...**
**У школе так:**
**Пры чытанні быў "так-сяк",**
**А калі ж спыталі верш**
**Думаў "хакер", што найперш:**
**"Мерсэдэс" або "Ферары"!..**
**Доўга вучні рагаталі...**
**Дома дзённік тата ўзяў...**
**Што ж там Дзіма атрымаў!..**
**Хто з вас, дзеці, угадаў!**

*Красавік. 1999 г.*

«Голас Радзімы»

**Рэдактар**
**Наталля САЛУК**

**Заснавальнікі:**

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).

Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 1498.

Падпісана да друку 16.08.1999 г. у 12.00.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

**Наш адрас:**
220005, Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 44.

**Тэлефоны:**
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82.